6 кастрычніка 2017 | № 37 (551)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Нашто Мадура Беларусі?**

Стар. 9



# Андрэй Дундукоў: «Методыку бою падказваюць гены»



Алесь КІРКЕВІЧ

**Краіна пачула імя Андрэя Дундукова, выдатніка МНС, турыста-экстрэмала і бацькі маладой сямʼі, у кантэксце «Справы патрыётаў». Чым Андрэй жыве і цікавіцца пасля выхаду з СІЗА? Пра рэканструкцыю, гісторыю і «агентаў Расіі» ў беларускім войску чытайце ў нашым матэрыяле.**

Мы працягваем серыю інтэрвʼю з фігурантамі нашумелай «Справы патрыётаў», у якіх гаворым не пра палітыку альбо абставіны справы, але спрабуем раскрыць гісторыі гэтых людзей, паказаць як чалавечыя якасці, так і жыццёвыя прыярытэты ды бачанне будучыні хлопцамі, да прозвішчаў якіх ужо стала дадаецца прыдомак: «патрыёт».

Андрэй заўсёды лічыў, што яго жыццё будзе шчыльна звязанае з войскам, таму спрабаваў у маладосці паступіць у Вайсковую акадэмію, але лёс склаўся па-іншаму. Паводле Дундукова, кожны генерал мае пабыць салдатам, а не пачынаць карʼеру адразу з лейтэнанта, таму і пайшоў на тэрміновую службу — у ПДВ, то бок дэсант. З 2011 года стала працуе ў МНС, ратуючы людзей.

Пры гэтым, як і кожны з фігурантаў справы, Андрэй мае багата зацікаўленасцяў, да некаторых з якіх вярнуўся толькі пасля выхаду з СІЗА...

### «У клуб запрасіў знаёмы»

***— Як ты прыйшоў да рэканструктарскага руху: толькі зараз ці ёсць перадгісторыя?***

— Я займаўся рэканструкцыяй на пачатку 2000-х гадоў, быў удзельнікам бабруйскіх клубаў, але, на жаль, па розных прычынах тады не склалася. Зараз жа так атрымалася, што адзін з маіх старых знаёмых — Юрась Усціновіч — дапамагаў сямʼі, пакуль я быў у СІЗА, а па выхадзе мы пачалі больш шчыльна сябраваць.

Гэта вельмі вядомы чалавек у руху, які гэтым займаецца ад пачатку 90-х. Можна сказаць, што ён мяне і ўцягнуў у рэканструктарскі рух, хоць само слова «рэканструкцыя» ён не вельмі любіць — лепш казаць «стылізацыя», але гэта нюансы.

***— Для цябе рэканструкцыя — гэта адпачынак, хобі, магчымасць падзарабіць?..***

— Хутчэй, хобі, чым імаверны заробак, бо гэта вымагае шмат часу, дый матэрыялы, з якіх робіцца рыштунак, не такія танныя. Таму сродкаў абʼектыўна ты ўкладаеш болей, чым можаш узяць. Асабіста мне больш цікавае XIV стагоддзе, але паколькі я прыйшоў у клуб праз знаёмых, то працаваць зараз больш будзем па XVII стагоддзю — гэта таксама надзвычай цікавы перыяд айчыннай гісторыі са шматлікімі войнамі.

***— У Беларусі не так шмат клубаў, якія займаюцца «шляхецкай эпохай»?***

— Цяжка казаць адназначна, бо людзі з часам зазвычай пераходзяць ад адной эпохі да іншай, цікавасці таксама змяняюцца. Чым пазней, тым лягчэй, калі казаць пра рэчы, якія на сябе апранаеш і з сабой носіш. Бо калі казаць пра позняе Сярэднявечча, то гэта дужа цяжкае ўзбраенне, у XVII стагоддзі ўжо лягчэй. А пачынаюць усе з ранніх перыядаў, напрыклад, з эпохі вікінгаў, бо гэта найменш складана: пашыў сабе вопратку з лёну, выкрайкі простыя, троху вобуны, рыштунак не такі складаны, калі параўноўваць з тым жа гатычным перыядам.

***— Усё ж такі, чаго тут больш — фізічных нагрузак ці «жывой гісторыі»?***

— У любым разе, тут ёсць частка фізічных практыкаванняў, калі адпрацоўваем паказальныя выступы, але па цяжкасці гэта, канешне, не кросфіт. Так атрымалася, што пасля гісторыі з затрыманнем у мяне з жыцця сышло пэўнае кола маіх захапленняў, а вольны час нечым займаць трэба, таму...

### Захапленне гісторыяй пачалося з «двойкі»

***— А што наконт захапленняў, якія засталіся ў мінулым?***

— Да затрымання я любіў практычную стральбу, гэта вымагае шмат часу і вельмі спецыфічных фізічных практыкаванняў, як і ў любым спорце. На жаль, у нас не так шмат спяцоў, а ў мяне з маім графікам працы не заўжды атрымлівалася трапляць да таго самага трэнера. Таму вымушаны быў займацца сам, аддаючы шмат часу і шмат энергіі. Зараз гэтага ў жыцці не стала, таму быў момант пошуку: што далей? Так і звярнуўся да рэканструкцыі. А гісторыяй я пачаў цікавіцца ў чацвёртым класе на пачатку 1990-х...

**Гісторыяй я пачаў цікавіцца ў чацвёртым класе**

***— Цікава, што памятаеш нават клас. Нешта тады адбылося?***

— Адбылося: міжусобныя войны Ягайлы з Вітаўтам *(смяецца)*. На жаль, усё гэта ў падручніку было напісана такім цяжкім тэкстам... Калі памятаеце, была такая бела-чырвоная кніжачка «Мая Радзіма Беларусь». Дык вось, пра Грунвальдскую бітву я матэрыял ведаў добра, а вось пра Ягайлу з Вітаўтам... я на той момант не дужа добра разумеў нават, што такое «міжусобныя войны» *(смяецца)*.

***— А вам не тлумачылі?***

— Не, бо настаўніцу мы мелі адну па ўсіх прадметах, і для яе міжусобныя войны Ягайлы з Вітаўтам былі такім жа непаразуменнем, як і для мяне. Разам з тым, настаўніца вырашыла, што мае веды цягнуць толькі на «два», і з той двойкі я і пачаў захапляцца XV стагоддзем.

### «Рускі гэта даспех ці не рускі?..»

***— Рэканструкцыя — гэта спосаб заняць самога сябе ці таксама прапаганда айчыннай гісторыі?***

— Гэта вельмі ўдалае спалучэнне і таго, і другога. Ты аднаўляеш пэўны перыяд і знаходзіш цікавы занятак сабе асабіста, але пры гэтым Юрась ладзіць багата сустрэчаў, на якіх мы распавядаем людзям пра зброю розных часоў, методыкі валодання ёй, гісторыю таго перыяду і іншае. У ягонай калекцыі ёсць даспехі на розныя часы, таму ўсё гэта відовішчнае і цікавае.

Мне падаецца, так нараджаецца цікавасць да гісторыі, бо гэта не проста расповед ці дэманстрацыя малюнкаў.



Працяг на стар. 5 »

6 кастрычніка 2017 | № 37 (551) Новы Час

# Журналістаў пакаралі

**У Заводскім судзе сталіцы суддзя Вера Галаўкова пакарала журналістаў Любоў Лунёву і Зміцера Краўчука штрафамі ў 30 базавых велічынь кожнага.**

Падстава: парушэнне артыкула 22.9 КаАП — супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі.

Любоў Лунёву і Змітра Краўчука судзілі адначасова ў адной залі. Журналісты заявілі хадайніцтва весці працэс па-беларуску, у хадайніцтве суддзя адмовіла.

Суддзя зачытала адміністрацыйныя пратаколы. Журналісты заявілі, што не прызнаюць сваю віну, і расказалі суду, што 29 жніўня сапраўды здымалі бацькоўскі сход у школе, якую ўлады вырашылі зачыніць.

Лунёва распавяла, што журналістаў запрасілі бацькі вучняў мінскай школы №210, якія за тры тыдні да пачатку навучальнага года даведаліся пра закрыццё адной з лепшых школ у перанаселеным мікраражне Мінска «Шабаны». Туды адправілася здымачная група «Белсату». У гэтым сюжэце было інтэрв'ю з кіраўніцай раённага аддзела адукацыі.

Лунёва пацвердзіла, што сапраўды прасіла пракаментаваць сітуацыю Людмілу Ляхновіч з Упраўлення адукацыі, спорту і турызму Заводскага раёна Мінска, якая фігуруе ў сюжэце: «Я папярэдзіла, што гэта тэлеканал «Белсат», і чыноўніца згадзілася даваць каментар. У каментары Людміла Ляхновіч заявіла, што школу трэба зачыняць, бо яна пабудаваная вельмі кепска ў сярэдзіне 1990-х гадоў. «Вы ж памятаеце, якія часы былі», — сказала Ляхновіч. Магчыма, нехта з вышэйшых чыноўнікаў прыгадаў, хто прыйшоў да ўлады ў сярэдзіне 1990-х, і таму вырашылі завесці гэтую справу».

У судзе выступіла начальніца Упраўленне адукацыі Заводскага раёна Мінска Людміла Ляхновіч. Яна пацвердзіла, што бацькоўскі сход сапраўды быў, а скажэнняў інфармацыі ў сюжэце «Белсата» няма.

**Паводле spring96.org**

# Варштат часоў Скарыны

Васіль ГЕРАСІМЧЫК

**Чатыры прадпрыемствы Шчучыншчыны, два прыватных прадпрымальнікі і апантанасць святара Сергія Сямашкі спатрэбіліся, каб увасобіць ідэю стварэння друкарскага варштату часоў Гутэнберга і Скарыны.**

Яго стварэнне заняло 13 дзён. Сам жа працэс друку, водціску аркуша, з нанясеннем фарбы на матрыцу, патрабуе 7 хвілін.

Францыск Скарына за час сваёй дзейнасці надрукаваў каля 2700 лістоў. На зробленых святаром Сергіем Сямашкам падліках, толькі на працэс друкавання павінна было пайсці поўных 13 дзён. Але гэта без уліку часу на падрыхтоўку найгалоўнага элемента варштата, яго сэрца, дзякуючы якому тэкст з'явіцца на паперы, — наборнай матрыцы.

«Нам, каб падрыхтаваць такую матрыцу, спатрэбілася 4 дні. Гэта ў часы Скарыны займала не менш часу... Дададзім да кожнага ліста дадзеныя 4 дні. Мы атрымліваем не шмат, але і не мала: каб друкаваць Біблію нашым метадам, нам спатрэбілася б 29 гадоў і 71 дзень жыцця без сну, без ежы, без мыцця», — распавёў Сергій Сямашка, святар Свята-Міхайлаўскай царквы Шчучына. А яшчэ да гэтага часу неабходна дадаць тэрмін на падрыхтоўку перакладу Біблії.

На падставе праведзенай працы Сергій Сямашка прыйшоў да наступнай высновы: «Францыск Скарына ніколі не працаваў адзін. З ім працавала вялікая кагорта людзей, якія яму дапамагалі. У выніку гэта было хутка, даволі сучасна, амбіцыйна. Гэта было таленавіта, гэта было якасна». Цяжкая жыццёвая праца, якая патрабавала тытанічных намаганняў, «не гаворачы пра журботу сям'і, пра спальванне кніг у Маскові, пра ганенні ў Кракаве».

Святар адзначае, што Царква гатовая ствараць варштаты, перадаваць іх сістэме адукацыі, абы толькі «захаваць у дзетках любоў да кнігі, любоў да слова».

Сярод тых, хто бескарысліва дапамог у рэалізацыі праекту, — Шчучынскі лясгас. На варштат пайшло цэлых сем стваллоў, паколькі для яго патрэбная найбольш каштоўная часцінка дзелавой працоўнай драўніны. Падтрымку аказаў Шчучынскі рамонтны завод, на якім быў створаны арыгінальны дызайн і запушчана канструкцыя рэдуктара прэса. Падтрымалі ідэю і супрацоўнікі ПМК-167 горада, і Вялікага Мажэйкаўскага дрэваапрацоўчага абозакалёснага цэха. У дадатак яшчэ спатрэбілася праца сталяра-чырвонадрэўшчыка і камп'ютарнага станка для вырабу матрыцы.

Сергій Сямашка падкрэсліў таксама наяўнасць «адэкватных» людзей у кіраўніцтве сістэмы адукацыі Шчучынскага раёна: «Каб іх не было, то я б не рашыўся на працу, таму што першапачаткова прыйшлося проста ўкладваць свае грошы. Я не ведаў, вернуцца яны ці не, я не ведаў, ці зразумее мяне сям'я. Ну, штосьці вярнуў аддзел адукацыі, штосьці Царква, астатняе давялося проста з кішэні закладваць».

Па самых сціплых падліках, на выраб друкарскага варштату часоў Скарыны спатрэбілася каля 1000 беларускіх рублёў і фактычна праца ўсяго горада Шчучына.

# Чамадан з грашыма

Павел РОС

**Ужо некалькі гадоў беларуская ўлада шукае, у каго б пазычыць грошы, каб раздаць старыя даўгі.**

Гаворка амаль заўсёды ідзе пра вялікія сумы. Прыгадаем, што не так даўно чыноўнікі актыўна выпрошвалі крэдыт ад МВФ на 2–3 мільярды долараў, аднак перамовы застопарыліся з-за нежадання Беларусі праводзіць рэформы. Пазней пачаліся кансультацыі з кітайскімі дзяржаўнымі карпарацыямі наконт крэдыту на агульную суму каля 600–800 мільёнаў долараў.

У выніку, па традыцыі, на дапамогу прыйшла Расія, якая аказала беларускім уладам фінансавую падтрымку ў выглядзе мільярднага крэдыту, які нарэшце дазволіў зацыраваць дзірку ў бюджэце.

Праблема ў тым, што і гэты мільярд калі-небудзь давядзецца аддаваць, ды яшчэ з працэнтамі.

На гэтым фоне амаль нерэальнай выглядае навіна з Украіны. У суседняй краіне з дапамогай укаранення новай сістэмы электронных закупак Prozorro з 1 жніўня 2016 года да 25 верасня 2017 года атрымалася зэканоміць каля 31,39 мільярда грыўняў бюджэтных сродкаў, што эквівалентна суме ў 1 мільярд 189 мільёнаў долараў!

Новую сістэму распрацавалі валанцёры ў супрацоўніцтве з прагрэсіўнымі чыноўнікамі Мінэканомікі. Акрамя ўсяго іншага, яна дазваляе ўсім жадаючым адсочваць і кантраляваць любыя закупкі, якія праводзяцца дзяржаўнымі органамі. Напрыклад, калі мясцовы чыноўнік вырашыў закупіць у набліжанага бізнесоўца тавар ці паслугу па завышанай цане, каб атрымаць адкат, то гэта адразу бачна анлайн. І менавіта такі падыход не дае карупцыянерам раскрадаць бюджэты.

У Беларусі сістэма пабудавана нашмат складаней: інфармацыя пра дзяржзакупкі публікуецца на пляцоўцы icetrade.by, якая была запушчана ў студзені 2002 года і з таго часу ў тэхнічнай частцы практычна не развівалася.

— Гэта прывяло да таго, што сама пляцоўка састарэла, а яе функцыянал значна адрозніваецца ад сучасных аналагаў у іншых краінах, — адзначыла ў каментары «Салідарнасці» дырэктар SYMPA / BIPART Наталля Рабава. — Акрамя таго, падаючы дадзеныя аб тэндэрах і конкурсных таргах, супрацоўнікі рэсурсу не заўсёды сапраўды запаўняюць дадзеныя, што ўскладняе кантроль дзяржзакупак.

Эксперт адзначыла, што ў Беларусі было толькі некалькі выпадкаў, калі публічны кантроль прыцягнуў увагу да магчымых парушэнняў у гэтай сферы. Напрыклад, у 2014 годзе скандал разгарэўся вакол закупкі валідатараў для грамадскага транспарту, калі ў конкурсе ўдзельнічалі дзве фірмы, звязаныя паміж сабой, а цана падалася экспертам завышанай. Аднак крымінальная справа па гэтым факце так і не была распачатая.

— Цяпер ідзе абмеркаванне новай сістэмы дзяржаўных закупак, але пакуль не зразумела, наколькі яе можна параўноўваць з украінскай сістэмай Prozorro. У любым выпадку, патрэбны грамадскі кантроль гэтай сферы, каб чыноўнікі ведалі, што іх парушэнні могуць атрымаць рэзананс, — падкрэслівае Наталля Рабава.

Па словах суразмоўцы, у Беларусі цяжка падлічыць, колькі дзяржаўных сродкаў раскрадаецца або неэфектыўна выдаткоўваецца падчас дзяржзакупак. Але, зыходзячы з сусветнай практыкі, страты беларускага бюджэту могуць складаць каля 1-1,5 мільярда долараў.

Па іроніі лёсу, менавіта такую суму беларускія ўлады прасілі ў замежных крэдытораў, каб збалансаваць дзяржаўны бюджэт.

**gazetaby.com, пераклад НЧ**

# Чарговая ідэя для мемарыялу ў Курапатах

Марат ГАРАВЫ

**На думку выбітнага беларускага паэта Алеся Разанава, над Народным мемарыялам у Курапатах мусіць гучаць стукат чалавечага сэрца.**

Такую прапанову творца агучыў днямі перад сябрамі аргкамітэту Міжнароднага адкрытага грамадскага творчага конкурсу «Курапаты — народны мемарыял» пад дэвізам «Праз Курапаты — да пакаяння».

Нагадаем, што з 10 сакавіка 2016-га па 22 лютага 2017-га ў аргкамітэт конкурсу на лепшы праект мемарыялізацыі Курапатаў паступілі 44 працы ў скульптуры, інсталяцыі, графіцы, жывапісе, архітэктурна-ландшафтным праектаванні і літаратуры. Большасць гэтых прац 38 аўтараў з Беларусі і Польшчы з 22 па 28 лютага экспанаваліся ў Мінску на II дакументальна-мастацкай выставе «Праўда пра Курапаты. Факты, дакументы, сведчанні».

Сярод прадстаўленых было і трохрадкоўе лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы, паэта Алеся Разанава, творчасць якога шырока вядома на Бацькаўшчыне і па-за яе межамі: «Словы аціхлі:// у немату// стукае сэрца».

Сябры аргкамітэту і журы конкурсу лічаць, што гэты лапідарны і глыбокі па сэнсе твор заслугоўвае таго, каб быць выбітым на ўваходнай браме ў Народны мемарыял.

На думку творцы, лагічным працягам ягонага трохрадкоўя ёсць стукат чалавечага сэрца, які мусіць гучаць над Курапатамі.

Алесь Разанаў мяркуе, што трэба запісаць гукі, якія цягам свайго кароткага жыцця чулі ахвяры сталінізму, расстраляныя ў Курапатах. А паколькі гэтыя людзі з'яўляліся аднагодкамі XX стагоддзя, яны жылі ў віхуры трагічных падзей свайго часу. Гаворка ідзе пра Першую сусветную вайну, Кастрычніцкі пераварот, Грамадзянскую і савецка-польскую войны, індустрыялізацыю, калектывізацыю, культурную рэвалюцыю і бясконцыя рэпрэсіі супраць іншадумцаў і так званых «сацыяльна варожых» для пралетарыяту катэгорый насельніцтва.

Таму сярод гукаў, што чулі бязвінныя ахвяры, мусяць быць не толькі любасныя поклічы бацькоў, мілыя сэрцу галасы каханай і дзяцей, спевы птушак, посвіст ветру, шум лесу, скрып возу, конскае ржанне, рыканне каровы, шоргат снегу, гарадскі гул, гудок паравозу і звон трамвая, але і лозунгі, песні, папулярная музыка 1920–1930-х гадоў, галашэнні сваякоў падчас арыштаў, пагрозы следчых, стогны сукамернікаў, катэгарычныя словы бязлітасных прысудаў, брэх аўчарак, лясканне турэмных засавак, жорсткія загады энкавэдыстаў, грукат «чорнага варанка» і бразганне затвору...

Напрыканцы ў немаце гучыць толькі адно чалавечае сэрца — ягоны стукат становіцца ўсё часцей, мацней і абрываецца ў цішыню...

На думку Алеся Разанава, прапанаваны аўдыёшэраг мусіць зрабіць адпаведныя прафесіяналы. «А для запісу гукаў чалавечага сэрца трэба вылучыць годную кандыдатуру найбольш знакавага і вядомага ў свеце беларуса», — падкрэсліў паэт.

Нагадаем, што пасля падвядзення вынікаў першага этапу конкурсу «Курапаты — народны мемарыял» быў абвешчаны яго другі этап, што распачаўся сёлета 19 красавіка і завершыцца ў лістападзе наступнага года.

Запрашаем беларускіх і замежных творцаў да ўдзелу ў конкурсе, з умовамі якога можна пазнаёміцца на сайце vytoki.net.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Эканоміцы не загадаеш…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**«На людзей трэба трошкі звяртаць увагу», — сказаў на тыдні кіраўнік дзяржавы. Аказваецца, яго любімае чытво ў інтэрнэце — пра забудоўшчыкаў, якія пілуюць дрэвы.**

Лукашэнка паказаў, што добра знаёмы са скандаламі ў справе высечкі дрэваў «пачынаючы ад Гомеля і заканчваючы Мінскам», якія асвятляліся ў СМІ. «Замест таго, каб парк дзесьці закласці ці да ладу давесці, вы пачынаеце штампаваць жыллё, — цытуе словы Лукашэнкі БелТА. — Месца няма, дзе жыллё будаваць? Абавязкова трэба канфлікт стварыць з насельніцтвам?.. У Мінску «дастукаліся» да таго: пачалі пілаваць векавыя дрэвы замест таго, каб пакласці дзесьці пад дарогай, як звычайна, камунікацыі».

Ён загадаў спыніць «разбой» з дрэвамі, сказаў словы пра людзей і дадаў, што інакш будзе сітуацыя, калі «ўлада сама па сабе, а людзі самі па сабе».

Усе выказванні такога кшталту нагадваюць анекдоты. Як, напрыклад, гэты. Сабраў кіраўнік адной краіны чыноўнікаў і кажа ім: «Палацаў панабудавалі, прадпрыемствы падзялілі, зямлі набралі... Трэба і пра людзей падумаць!» А нехта з тых чыноўнікаў адказвае: «Слушна! Душаў па дзвесце нам бы не зашкодзіла!»

Па-першае, ужо даволі даўно «ўлада сама па сабе, а людзі самі па сабе». Шмат таму прыкладаў могуць прывесці індывідуальныя прадпрымальнікі і тыя, каго закрануў «дармаедскі дэкрэт»... Ды што там па катэгорыях хадзіць! Хто зараз, акрамя чыноўнікаў і айцішнікаў, атрымлівае «па пяцьсот»? Большасць насельніцтва ў заробках не дацягваюць нават да канстатаванай афіцыйнымі статыстыкамі сярэдняй па краіне зарплаты. А значыць, дзяржава — сама па сабе, людзі ж выжываюць як могуць.

Што тычыцца знішчэння дрэваў, пра што казаў Аляксандр Рыгоравіч, то тут ёсць законы рынку, якія нават кіраўніку дзяржавы непадуладныя. Мы ўжо сто разоў тлумачылі, чаму зямля пад забудову ў Мінску каштуе такіх шалёных грошай. Таму што 50% кошту дома — гэта камунікацыі. Прычым, камунікацыі не толькі ў сэнсе «электрычнасць-каналізацыя», але і інфраструктура. Кватэра ля метро каштуе даражэй, чым дом у чыстым полі.

Мы пісалі і пра тое, што ўчастак для забудовы ў тым жа цэнтры Мінска з улікам хабараў і адкатаў каштуе каля мільёна долараў. Таму зразумела, што ўзнікаюць «даўгабуды»: аддаўшы такія грошы за зямлю, на іншае проста занялі. А вось на будаўніцтва грошай ужо не хапае...

І тут трэба не на людзей глядзець, а стварыць прынцыпова новыя ўмовы для забудоўшчыкаў. Каб яны не клалі вока на зялёныя зоны, пад якімі ёсць камунікацыі, а стварылі свае такія ж. Мяняць падыходы да будоўлі — гэта «лібералізаваць» цэлую галіну эканомікі. А з ёй непарыўна звязаныя рынкі будматэрыялаў, тэхнікі, працоўнай сілы, фінансавы рынак (тыя ж іпатэка і крэдытаванне), перапрацоўчая і здабываючая галіны... А калі будаўніцтвам займаецца замежная кампанія — гэта яшчэ і падаткова, і інвестыцыйны клімат... То бок, ланцужок такой рэформы забудовы можа пацягнуць за сабою рэформу ці не ўсёй беларускай эканамічнай мадэлі. А тады ад той сістэмы, якую дзесяцігоддзямі выбудоўваў Аляксандр Рыгоравіч, застануцца рожкі ды ножкі.

Так што, можа, у выніку гэтай нарады ў кагосьці і забяруць пару-тройку «смачных» аб'ектаў. Але карэнных зменаў чакаць проста не варта. Падобныя нарады ў кіраўніка дзяржавы — сігнал, хутчэй, трывожны, чым абнадзейваючы, бо яны прыводзяць калі не да адваротных вынікаў, то ўсё застаецца на сваіх месцах.

**Нацбанк, якім мы так ганарымся за стрымліванне інфляцыі і за збалансаваную грашова-крэдытную палітыку, пяты год запар не мае прыбытку. На сёння абавязальніцтвы Нацбанка складаюць 2 мільярды долараў, а ўсе атрыманыя грошы ідуць на абслугоўванне даўгоў**

Чалавечая памяць ва ўмовах інтэрнэту — дзіўная рэч. Мы добра памятаем, што было гадоў 15–20 таму, але не згадваем пра падзеі трох-пяцігадовай даўніны. Але ж не далей як у 2013-м кіраўнік Беларусі ці не ўвесь год прысвяціў жыллёваму будаўніцтву, збіраў вялікія нарады, «жэстачайшэ» патрабаваў вынікаў, аж да таго, што «будаўніцтва апошняга праблемнага дома павінна быць завершана ў наступным годзе, крайні тэрмін — лета 2014 года».

Восень 2017-га — зноў праблемы з даўгабудамі. Таму што, каб быў вынік, трэба не нарады праводзіць, а сістэму мяняць. Мяняць сістэму «зверху» ніхто не збіраецца — гэта вельмі небяспечна. А таму і вынікаў не будзе.

Але, акрамя нармальных і празрыстых умоваў працы на будаўніцтва (дый на ўсё іншае) патрэбныя і грошы. І тут на тыдні раптам з'явіліся пэўныя трывожныя званочкі. Можа, яны былі і раней, але зараз пра іх даведаліся не толькі спецыялісты.

Па-першае, наш любы Нацбанк, якім мы ўсе так ганарымся за стрымліванне інфляцыі, курсу долара і ўвогуле за збалансаваную грашова-крэдытную палітыку, па словах старшыні праўлення Нацбанка Тараса Надольнага, пяты год запар знаходзіцца ў складанай фінансавай сітуацыі і не мае прыбытку. Звязана гэта з тым, што з 2008 па 2012 год Нацбанк актыўна браў удзел у механізмах падтрымання курса беларускага рубля да замежных валют, згладжваў ваганні. Адпаведна, прыцягваў дастаткова вялікі аб'ём абавязацельстваў, «бо ўнутраных рэзерваў не было, а курс падтрымліваць трэба было ў адпаведнасці з задачамі, якія ставіліся зверху». На сёння знешнія і ўнутраныя абавязальніцтвы Нацбанка складаюць 2 мільярды долараў, а ўсе атрыманыя грошы ідуць на абслугоўванне даўгоў і іншыя патрэбы.

Па-другое, каб людзі неслі ў банкі свае грошы, яны павінны мець гарантыі іх вяртання. Для гэтага было створана Агенцтва па гарантаваным вяртанні ўкладаў. Аднак грошай у гэтага Агенцтва сёння — толькі 7,2% ад агульнай сумы ўсіх банкаўскіх укладаў.

Калі ляжа, напрыклад, «Беларусбанк», у якім сканцэнтраваныя 44% ад усіх банкаўскіх укладаў насельніцтва, прывёў прыклад Надольны, «то, безумоўна, 7% можа быць недастаткова для выплаты. Але дзяржава як уласнік «Беларусбанка» нясе ўсю меру адказнасці і цяжар за свой банк. Таму дзяржава ў любым выпадку будзе свой банк падтрымліваць, ёсць грошы ў Агенцтве ці няма. Гэтае пытанне ўжо будзе насіць палітычны характар», — сказаў старшыня праўлення Нацбанка.

І вядома, як будзе падтрымліваць — уключыць друкарскі станок, у выніку чаго ўсе ўклады імгненна абясцэняцца.

Пытанне ў тым, чаму Надольны раптам згадаў «Беларусбанк», а не прывёў больш аптымістычныя прыклады збанкрутавалага «Дэльта-банка» альбо нядаўнюю сітуацыю з BSB-банкам, які пасля забароны яму аперацый з фізічнымі асобамі здолеў сплаціць грошы ўсім сваім кліентам? Няўжо не ўсё добра з «Беларусбанкам»?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Ігар Комлік



**Бухгалтар прафсаюза РЭП, які знаходзіўся на Валадарцы па крымінальнай справе аб нясплаце падаткаў, вызвалены пад падпіску аб нявыездзе.**

Нагадаем, 2 жніўня супрацоўнікі Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі правяліператрус і канфіскацыю камп'ютараў і фінансавых дакументаў у офісе прафсаюза РЭП і цэнтральнага офіса БНП. Былі затрыманыя старшыня РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар Ігар Комлік. Фядыніч быў дапытаны і адпушчаны, а Комлік застаўся пад вартай.

«Ставіліся там да мяне нармальна, не катавалі, — казаў Комлік пасля выхаду. — Я адразу адмовіўся ад дачы паказанняў. У мяне некалькі разоў пыталіся, ці я разгаварыся. Пагражалі, што калі буду маўчаць — пасадзяць. Але закон прадугледжвае магчымасць адмовы ад дачы паказанняў. Зрэшты, і са следчым мы бачыліся не так часта, я проста сядзеў. Успрымаю гэта як форму ціску на мяне. Вось выпусцілі, але справу не закрылі — я пад падпіскай пакуль, у чацвер на сустрэчу са следчым».

Комлік жартуе, што, па аналогіі з вядомым лозунгам «На свабоду — з чыстым сумленнем», ён прыйшоў «на нары з чыстым сумленнем».

«Справа відавочна скіраваная на тое, каб пазбавіцца незалежнага прафсаюза. Калі мяне затрымалі і сталі задаваць пытанні, для мяне гэта адразу стала зразумела», — сказаў Комлік.

## Павел Севярынец



**Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні БХД і вядомы палітык атрымаў ці не самы незвычайны арышт у сваім жыцці.**

Севярынца 2 кастрычніка асудзілі на 15 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі супраць вучэнняў «Захад–2017», якая прайшла ў Мінску 8 верасня. Нягледзячы на тое, што палітык з'явіўся на судовае пасяджэнне і прысутнічаў у залі суда, пасля выраку яго... не арыштавалі. І ён па-ранейшаму знаходзіцца на свабодзе.

Па меркаванні самога Севярынца, такая дзіўная рэч здарылася таму, што яго хочуць арыштаваць пазней, каб ён не прыняў удзел у наступнай вулічнай акцыі, якая запланавана на 21 кастрычніка. Хаця і прыйсці на яе Севярынцу таксама складана — на гэтую дату ў яго быў запланаваны ўдзел у святкаванні 100-годдзя газеты хрысціянскіх дэмакратаў «Крыніца».

Ісці ў пастарунак і «здавацца», каб адседзець прызначаны тэрмін да 21 кастрычніка, Павел Севярынец не збіраецца. Найперш таму, што лічыць прысуд незаконным. «Але торба ў мяне для турмы сабраная, стаіць на ўсялякі выпадак», — сказаў ён.

## Тарас Цялькоўскі



**Малады пастар евангельскай царквы з нагоды 500-годдзя беларускай Біблії, надрукаванай Скарынам, зладзіў ультрамарафон — за пяць дзён прабег 500 кіламетраў.**

«Я пастар евангельскай царквы. Калі Скарына 500 гадоў таму перакладаў Біблію на беларускую мову, ён хацеў данесці гэтае пасланне да простых людзей, каб яны маглі прачытаць яго на даступнай ім мове. Гэта не быў нейкі літаратурны праект. Праз 500 гадоў мяне натхніў Скарына, я хацеў данесці ідэю, каб беларус узяў у рукі гэтую кнігу і пачаў жыць па божай літасці», — сказаў Цялькоўскі «Еўрарадыё».

«Я не хацеў атрымаць нейкія грошы, нейкія рэчы. Я хацеў данесці пасланне, бо я вельмі натхнёны гэтай кнігай і гатовы рабіць вар'яцкія рэчы», — зазначыў ён.

Увогуле, займацца лёгкай атлетыкай пастар пачаў у шостым класе. Сам ён іранічна кажа: «Калі ты хочаш выжыць у Серабранцы (спальны раён у Мінску. — рэд.), то трэба пачынаць бегаць рана. Там бегаюць дзеці з двух гадоў».

Што да далейшых планаў, то ў Цялькоўскага ёсць ідэя прабегчы не 500 кіламетраў, а тысячу, і зрабіць гэта не за пяць дзён, а менш. Але пакуль няма ідэі, чаму прысвяціць гэта. У любым выпадку, такі забег — ці не лепшае мерапрыемства да 500-годдзя беларускай Біблії.

Паліна СЦЕПАНЕНКА

**Сёлета на плакаце Тыдня супраць смяротнага пакарання фотаздымак, зроблены ў красавіку 2017 года ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам. НКУС расстраляў там тысячы людзей, але сённяшнія ўлады адмаўляюцца прызнаваць злачынствы камунізму і сцвярджаюць, што гэта ахвяры Другой сусветнай вайны.**




# Смяротнае пакаранне — гэта мінулае

Тыдзень супраць смяротнага пакарання сёлета чацвёрты раз праводзіцца кампаніяй «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання». Гэтым разам ён мае дэвіз «Смяротнае пакаранне — гэта мінулае».

«Чаму мы гаворым у межах Тыдня пра масавыя рэпрэсіі? — задае пытанне каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання Андрэй Палуда. — Мы такім чынам нагадваем, што ў тыя часы людзей расстрэльвалі паводле судовых прысудаў, пасля следчых дзеянняў, падчас якіх выкарыстоўвалі катаванні, якіх людзі не вытрымлівалі — агаворвалі сябе і сваіх блізкіх, тым самы павялічвалі колькасць ахвяр. Мы хочам нагадаць, што ў краіне, дзе існуе смяротнае пакаранне, яно можа быць выкарыстана не толькі супраць крымінальнікаў, што і адбылося падчас масавых рэпрэсій у СССР. Мы перакананыя, што смяротная кара павінна застацца ў мінулым і стаць часткай гісторыі».

## Падмурак таталітарызму

Пра тое, што таталітарызм і смяротнае пакаранне звязаныя непарыўна, вядома аж з XVIII стагоддзя. Адным з першых у Еўропе неабходнасць адмены пакарання смерцю абгрунтаваў італьянскі правазнаўца і філёсаф Чэзарэ Бекарыя ў трактаце «Аб злачынствах і пакараннях» у 1764 годзе. У ім упершыню былі сфармуляваныя асноўныя аргументы на карысць адмены смяротнага пакарання і катаванняў. Бекарыя лічыць, што выкарыстанне смяротнага пакарання — гэта не права, а вайна дзяржавы з грамадствам.

На думку Бекарыя, больш эфектыўнай мерай пакарання з'яўляецца пажыццёвае зняволенне. Неапраўданае смяротнае пакаранне яшчэ і таму, што мае незваротны характар, у выпадку смяротнага пакарання памылка суда непапраўная. Бекарыя паказвае, што пакаранне смерцю не толькі неэфектыўнае, але і небяспечнае і шкоднае, бо спараджае ў людзей жорсткасць, амаральнасць, помслівасць, злараднасць. «Абсурдна, калі дзяржаўныя законы з аднаго боку ганяць і караюць за забойства, і ў той жа час дзяржава сама ажыццяўляе забойства», — пісаў філосаф.

Праўда, паводле Бекарыя, у тым, што законы пра смяротную кару з'яўляюцца толькі шырмай для гвалту і дэспатызму дзяржаўнай улады, а асуджаныя да смяротнага пакарання — тое ж самае, што і чалавечыя ахвярапрынашэнні старажытным багам.

## Таемныя пахаванні

У Расійскай імперыі целы пакараных смерцю для пахавання не выдаваліся. Напрыклад, магілай Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага, ксяндза Станіслава Ішоры стала гара Гедыміна ў Вільні. Сёлета пры яе абвале парэшткі паўстанцаў былі знойдзеныя, і цяпер праводзіцца экспертыза.

Улады Расійскай імперыі баяліся, што магілы «палітычных злачынцаў» стануць месцамі ўшанавання іх памяці. Такім чынам, там, дзе парушаліся сацыяльныя і нацыянальныя правы вялікай колькасці групаў насельніцтва, смяротная кара была інструментам, які стрымліваў супраціў.

Захавалася традыцыя таемных пахаванняў і падчас сталінскіх рэпрэсій. Расстрэльвалі «ворагаў народа» ўначы пры святле фараў. Так было ў мінскіх Курапатах, дзе расстраляныя ад 102 да 250 тысяч чалавек. Раскопкі ў 1992 годзе паказалі, што частка ямаў мае прыкметы таго, што каты спрабавалі знішчаць сляды злачынстваў.

Пасля ХХ-га з'езду партыі, які асудзіў сталінскія рэпрэсіі, «расстрэльныя» лясы часцяком ахоўвалі былыя супрацоўнікі карных органаў, удзельнікі расстрэльных камандаў, якія ўладкоўваліся працаваць палясоўшчыкамі альбо вартаўнікамі. Іх мэтай было назіраць за расстрэльнымі ямамі, ахоўваць тэрыторыю ад занадта цікаўных, каб ніхто не раскапаў іх, напрыклад, падчас вайскова-спартовых гульняў «Зарніца» альбо суботнікаў. Гэтая практыка выкарыстоўвалася не толькі ў Беларусі, але і ў іншых рэспубліках СССР. Так было і ў Літве, пра што паведаміў Эўгеніюс Пейкшцяніс, дырэктар Музею генацыду жыхароў Літвы.

## Кабыляцкая гара

Так было і ў Оршы на Кабыляцкай гары, дзе палясоўшчыкам працаваў былы кат Сідарэнка, які падчас рэпрэсій сам здзяйсняў расстрэлы.

У верасні 1982-га ў лесе на Кабыляцкай гары пры будаўніцтве была знойдзеная яма з целамі 50 расстраляных. Камісія прызнала, што гэта расстрэлы савецкіх часоў.

**І цяпер у Беларусі месцы пахавання пакараных смерцю застаюцца таямніцай, што ахоўваецца часткай 5 артыкула 175 КВК: «Цела для пахавання не выдаецца, пра месца пахавання не паведамляецца»**

«20 верасня 1982 года. Камісія з прадстаўнікоў савецкіх і адміністратыўных органаў (пракурор, судовы эксперт, прадстаўнік ваенкамата, міліцыя) правяла агляд парэштак, знойдзеных пры будаўніцтве чыгуначнага адгалінавання Орша-Паўночная. Пасля апытання мясцовых жыхароў і правядзення эксгумацыі, камісія выключае магчымасць таго, што гэтыя людзі былі расстраляныя падчас нямецкай акупацыі. Як правіла, немцы праводзілі расстрэлы адкрыта, а не ў глухіх месцах, з аўтаматаў без пашкоджання касцей галавы (...) Агляд месца паказаў, што пахаванне праведзенае ў 1937–1939 г. у глухім лясным масіве (...) усе пяцьдзясят чарапоў маюць адтуліны ад кулі ў лобнай частцы», — гаворыцца ў заключэнні камісіі.

## Хайсы — сапраўдны жах

Вясной 2017 года ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам проста на паверхні зямлі з'явіліся чарапы людзей з характэрнымі адтулінамі ад куль. Гэта парэшткі людзей, расстраляных пры Сталіне. Косткі, чарапы, фрагменты адзення пабачылі на паверхні, пасля таго, як тут пабылі «чорныя капальнікі». Па рэчах, якія знаходзяцца ля раскапаных ям, зразумела, што сярод расстраляных былі і мужчыны, і жанчыны. Гэта чарапы тых, родныя якіх дагэтуль не ведаюць, дзе загінулі і былі пахаваныя іх продкі.

Улады адмаўляюцца прызнаваць урочышча Хайсы месцам масавых расстрэлаў. Тым не менш, там ужо каля 30 саматробных крыжоў і ўказальнікі, якія вядуць да месца расстрэлаў.

Ян Дзяржаўцаў, стваральнік ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты», з 2104 года збірае сведчанні пра злачынствы камунізму ў Хайсах. Вось адно з іх:

«Славік Буевіч распавядаў, што яго бацька быў лесніком. І сказалі бацьку аднойчы: «У цябе крадуць лес. Па начах машыны ходзяць, са святлом. Чаго ездзяць у лес? Крадуць!». Калі атрымаў сігнал, трэба ж рэагаваць, інакш быць бядзе. І ён увечары выпраўляецца. Прыйшоў раней. Схаваўся за елку, сядзіць, глядзіць. Ідзе машына. Святло фараў. Ён чакае, кажа сам сабе: «Вось зараз я вас цёпленькімі вазьму. На месцы пачакаю, калі пачнуць грузіць». Машына выйшла на паляну, стала, дзверы адчыніліся. З кабіны вылезлі людзі. Чуюцца мацюкі, людзей шмат з машыны выйшла. Глядзіць: людзей гэтых на калені ставяць. А цёмна. Ён спачатку не бачыў, што там яма. Пачалі страляць. Ён зваліўся пластом і ляжаў, пакуль не расстралялі ўсіх людзей. Засыпалі зямлёй. Пасадзілі елачкі невялікія. Ён кажа: «Я потым, калі ўстаў, агледзеў гэта». Агледзеў і ціхенька пайшоў».

І цяпер у сучаснай Беларусі месцы пахавання пакараных смерцю застаюцца таямніцай, што ахоўваецца часткай 5 артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэксу, у якім гаворыцца, што «цела для пахавання не выдаецца, пра месца пахавання не паведамляецца».

## Актуальная праблема

Наяўнасць смяротнага пакарання ў Беларусі застаецца актуальнай праблемай для грамадства. Яна абмяркоўваецца ўсё часцей і на розных узроўнях, хаця аргументы «за» і «супраць» даўно вядомыя. І тым не менш, кожны раз, калі ўздымаецца тэма смяротнай кары (тэма не з прыемных, таму ўздымаецца яна не так часта ў штодзённым жыцці), ускіпаюць гарачыя спрэчкі.

«Вельмі складаная частка кампаніі — праца ў юрыдычным накірунку. Калі кіраўнік краіны асабіста за смяротнае пакаранне і часцяком выказвае гэта меркаванне публічна. «Добры» прыклад у звязку з гэтым — сітуацыя з Аляксандрам Груновым, калі Вярхоўны суд адмяніў рашэнне калегіі па крымінальных справах Гомельскага абласнога суда аб смяротным пакаранні Грунову. Пасля гэтага на сустрэчы з генпракурорам Лукашэнка сказаў, што гэтага чалавека не мусіць «насіць зямля». Мне падаецца, што гэта прыклад моцнага ціску на суд. Усё ж такі наш кіраўнік вельмі моцна ўплывае на ўсе працэсы ў краіне, і самае галоўнае, — ён прызначае суддзяў. Як вынік — яшчэ адно пасяджэнне Гомельскага аблсуда — і зноў смяротны прысуд. Разгляд у Вярхоўным судзе — прысуд зацверджаны, Груноў расстраляны. Гэта дастаткова яскравы прыклад таго, наколькі складана працаваць у юрыдычным кантэксце, у юрыдычным накірунку ў межах нашай кампаніі», — распавядае каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання Андрэй Палуда.

«Нягледзячы на некалькі (а ў нас іх ужо восем), пададзеных справаў у Камітэт ААН па правах чалавека, ніводнага разу Беларусь не прыслухалася да КПЧ ААН. І гэта таксама яскравы прыклад. Смяротнае пакаранне ў XXI стагоддзі — гэта варварства. Я лічу, што прыйшоў час, каб яно сышло ў мінулае. І таму мы не губляем надзеі і працягваем працаваць», — кажа праваабаронца.

***P.S.:*** *У межах Тыдня супраць смяротнага пакарання ў вёсцы Стаўры пад Оршай 6 кастрычніка адбылася дыскусія «Масавыя рэпрэсіі і смяротнае пакаранне» і прэзентаваны фільм «Гісторыя смяротнага пакарання ў Беларусі», падрыхтаваны адмыслова ў гэтым годзе. Удзельнікі наведалі месцы масавых расстрэлаў пад Оршай — Кабыляцкую гару і лес па Магілёўскай шашы.*

# Андрэй Дундукоў: «Методыку бою падказваюць гены»

« Працяг. Пачатак на стар. 1

Той жа даспех можна памераць, адчуваць вагу, уявіць, як усё гэта выглядала ў мінулыя часы. Таму людзі і цягнуцца, як моладзь, так і людзі сталага веку. У нас склалася багата міфаў, якія мы спрабуем руйнаваць падчас гэтых сустрэчаў.

Напрыклад, часам кажуць, што сярэднявечны меч важыў ледзьве не паў пуда, а насамрэч, хоць мячы былі і розныя, сярэдняя вага — кілаграм-паўтара. Альбо думаюць, што ўсе сярэднявечныя ваяры — гэта рыцары, закутыя ў прыгожы бліскучы панцырны даспех, хоць каштавалі такія даспехі вялізных грошай, таму іх і не магло быць шмат. Таму, калі бачыш усё на яве — міфы рассыпаюцца.

***— Ты чуеш дарэчныя альбо зусім недарэчныя пытанні ад гледачоў?***

— Недарэчныя хутчэй ад падпітых гасцей, калі дзея адбываецца на нейкім фэсце, накшталт: «Рускі гэта даспех ці не рускі?..» Вось тады маса недарэчных пытанняў *(смяецца)*. Звычайна, пытанні цалкам адэкватныя, прычым ад людзей, якія самі цікавяцца і нешта ведаюць. Бываюць на сустрэчах і замежнікі, ім гэта таксама цікава, то бок мы, у нейкім сэнсе, падтрымліваем і марку краіны ў гэтай галіне.

***— Ці маеш нейкія ўпадабанні альбо спецыялізацыю ў плане сярэднявечнай зброі?***

— З даўніх часоў мне падабаюцца сякеры, таму я ўпэўнена сябе адчуваю, і калі трымаю яе ў руках, і калі нешта распавядаю ды тлумачу пра гэты від зброі. Гэта і кароткія сякеры, і двуручныя, так бы мовіць, індывідуальныя. Цікава, што, паводле адной з версіяў, вялікага магістра Тэўтонскага ордэну забіў менавіта ліцвін, і зрабіў гэта сякерай.

***— Дзякуючы археалогіі можна аднавіць форму сякеры, а як аднавіць тэхніку бою 500–700-гадовай даўніны?***

— Шмат да чаго людзі даходзяць самі, бо гены падказваюць. Калі прыходзіш у рэканструкцыю, аднак да таго часу ўжо займаўся нейкімі баявымі мастацтвамі, ты разумееш, як рухацца, як трымаць шчыт, як прыкрывацца падчас двубою. Бярэш зброю, трошкі памахаў — і прыходзіць разуменне, як трымаць і як дзейнічаць. Але ёсць выпадкі, як з працай двуручным мячом, калі без падручніка не абыдзешся: шмат спецыфікі.

## «Наша гісторыя — гэта бясконцыя войны»

***— Ты вайсковы чалавек, а ці няма ў вайскоўцаў такога разумення, што войска, маўляў, справа сур'ёзная, а рэканструкцыя — дзіцячыя забаўкі?***

— Вайскоўцы ставяцца да рэканструкцыі вельмі па-рознаму, бо войска — гэта зрэз грамадства: адны падтрымліваюць падобныя захапленні, іншыя лічаць, што рэканструктар невядома навошта абвешваецца бляшанымі банкамі... У кожнага сваё меркаванне. Дзякуй Богу, апошнім часам усё больш людзей ставіцца да гэтага сур'ёзна, бо прыходзіць разуменне, што гэта таксама беларускае войска, нашы папярэднікі, а без мінулага мы не можам збудаваць сучаснае.



У сямейным коле з жонкай Ганнай і сынам

***— А ты сам адчуваеш пераемнасць паміж нашым старажытным войскам і тым, што маем зараз?***

— На жаль, зараз такой пераемнасці пакуль няма.

***— А як гэта можна змяніць? Уводзіць нейкія рытуалы?..***

— Вельмі паказальны прыклад войска Ізраіля. У іх ёсць легендарная крэпасць Масад, дзе шмат якія вайскоўцы прымаюць прысягу. У нас прысягу прымаюць на плацу альбо выязджаючы на нейкае поле, прычым часцяком робіцца гэта без належнага разумення. Аднак у Беларусі ёсць мноства месцаў, дзе нашы продкі перамагалі большыя па колькасці і лепш узброеныя войскі суперніка — гэта тыя перамогі, якімі мы можам ганарыцца, пра якія ўсю ўжо ў тыя часы ведала ўся Еўропа.

На жаль, сёння мы на гэта забыліся. Акурат праз такія месцы, праз расповеды і сустрэчы сітуацыю можна выпраўляць. Раней жа людзі меліся памятаць свой род да сёмага калена, каб не забываліся, чым займаліся іх продкі, а ў нас гэтага сёння няма: уся вайсковая гісторыя зводзіцца да Другой сусветнай вайны, дастаткова ведаць баявы шлях сваёй брыгады, каб быць ідэйна падкаваным байцом.

***— А дзе ў нас можна было б прымаць прысягу?***

— У нас што не горад, то сувязь з падзеямі, бо праз нас прайшлі мноства войнаў і паўстанняў. Гэта апошнія 40–50 гадоў можна пачуць, што беларусы рахманыя і ніколі не ваявалі, а насамрэч ці не кожнае пакаленне беларусаў трымала зброю ў руках і бараніла Радзіму. Узяць хаця б памежныя войны ВКЛ пасля Вітаўта: там жа фактычна быў няспынны канфлікт.

Наша гісторыя — гэта бясконцыя войны: білі і крыжакоў, і маскавітаў, і шведаў, і татараў. Калі браць выдатных ваяводаў, то ў нас ёсць кім ганарыцца: Ян Караль Хадкевіч, Канстанцін Астрожскі, Юры Радзівіл... Існуюць добрыя прыклады і Літвы, і Польшчы, якія глядзяць у сваёй гісторыі далей і глыбей за апошнія 100 гадоў, варта было б павучыцца.

## «Ідэалогія мусіць пачынацца ў садочку»

***— Хто павінен займацца ідэйным выхаваннем байцоў? Палітрук, бацюшка, замацаваны за часткай, яшчэ нехта?..***

— Усё гэта маюць пачынаць тлумачыць яшчэ ў садочку. Хлопец у войска ўжо павінен прыйсці ідэйна падкаваным, мусіць ведаць, што ён — абаронца сваёй Бацькаўшчыны. Бо на працягу нядоўгага 1,5 года ў войску трэба займацца баявой падрыхтоўкай, а не ідэалагічнай. На жаль, ані ў садочку, ані ў школе ніхто гэтага не робіць. Што казаць, калі байцы нашай арміі часцяком ані пісаць нармальна не могуць, ані геаграфіі сваёй краіны не ведаюць... Не буду казаць пра ўсіх, але я асабіста такіх сустракаў падчас сваёй тэрміновай службы.

***— Перавод войска на беларускую мову — гэта нешта немагчымае альбо дарэчная мера, якая з часам мае стаць нормай?***

— Залежыць, што перакладаць на мову, бо калі мы загадаем усяму асабістаму складу раптам загаварыць па-беларуску, то ўзнікне больш пытанняў, чым адказаў. Я лічу, што ўсё гэта мае адбывацца паступова і акуратна, пачынаючы з шыхтавых камандаў і далей-далей-далей... Мова — гэта сродак зносінаў. Возьмем радыёабмен: людзі павінны найперш разумець адзін аднаго, а не думаць, хто на якой мове сказаў. Канешне, было б добра, каб усе па загадзе за дзень вывучылі мову, але так не бывае.

Таму пачынаць трэба з шыхтавых камандаў. Ёсць добры «Беларуска-расійскі вайсковы слоўнік», выдадзены ў 1990-х Сержуком Чыславым і Станіславам Суднікам. Яго не так складана вывучыць, прычым пачынаць можна з урокаў фізкультуры ў школе. А пасля ў войску дадасца яшчэ і лексіка, датычная валодання зброяй. Шыхтавы статут быў перакладзены на беларускую яшчэ напрыканцы 1980-х. Так, там ёсць пэўныя хібы, але гэта была першая спроба. Агулам, гэта нескладана, калі людзі прызвычаяцца і мова ўвойдзе ва ўжытак, наша войска ўжо будзе больш падобным на беларускае.

## «Адкуль вы ведаеце, хто здраднік?»

***— Зараз у дыскусіях шмат негатыву, маўляў, усе нашы сілавікі — гэта нібыта патэнцыйныя здраднікі і «агенты Расіі». Што ты пра гэта думаеш?***

— Вядома, збольшага гэта перагінанне палкі ды істотнае перабольшванне існуючых хібаў. Паўтаруся, што войска — гэта зрэз грамадства. Там ёсць людзі, якія любяць Расію і якія яе не любяць, якія служаць за грошы і якія служаць перакананa. Пытанне, як доўга апошнія, напрыклад, у гэтым войску затрымліваюцца...

Але нельга мераць усіх адной меркай і казаць, што тыя «здраднікі», бо носяць пагоны, а тыя — «патрыёты», бо сядзяць у фэйсбуку ды на люстэрка ў машыне прывязваюць вышываную стужку. Гэта не паказчыкі сутнасці таго ці іншага чалавека, і ніхто не ведае, як хто сябе павядзе ў крытычнай сітуацыі. Той, хто найбольш крычыць, звычайна, найхутчэй бяжыць у адваротны ад небяспекі бок. Вайны не было, дык адкуль вы ведаеце, хто здраднік?

***— Адкуль тады меркаванне, што беларускія вайскоўцы «глядзяць на Расію»?***

— Бо гэта наш партнёр у вайсковых пытаннях, гэта тая дзяржава, з якой нашы вайскоўцы найбольш шчыльна супрацоўнічаюць. У дадатак, наша войска не спяшаецца добра карміць. Калі афіцэр зарабляе 300–400 долараў, то я лічу, што гэта не тыя грошы, за якія можна жыць разам з сям'ёй, аддаючы столькі часу сваёй працы, колькі аддае вайсковец. Таму, калі сусед зарабляе больш, то нашы пачынаюць задумвацца і цікавіцца, чаму ж так? Ёсць добрае выслоўе: «Хто не корміць сваё войска, будзе карміць чужое».

На жаль, зараз нават па апытанках, якія праводзілі СМІ, бачна, што вайсковы бюджэт ніхто з мінакоў папаўняць не хоча. Усе кажуць, што нам патрэбная ахова здароўя і адукацыя, быццам войска — гэта хлопчыкі, якім наўпрост падабаецца бегаць у зялёнай форме і часам страляць... Але з гісторыі мы бачым, што як толькі войска ў дзяржаве слабое, то неўзабаве прыйдзе сусед, які прывядзе мацнейшае і больш баяздольнае.

## «Калі еду на трэніроўку, бяру з сабой сына»

***— Ці хацеў бы ты аддаць свайго сына ў кадэцкі клас, суvoраўскую вучэльню альбо наўпрост рэканструктарскі гурток, каб яго жыццё было звязанае з той справай, якой ты аддаеш жыццё?***

— Нельга нешта навязваць, бо ты альбо сам прыходзіш да гэтага, альбо не прыходзіш наогул. Пра сучасныя кадэцкія класы, напрыклад, у мяне вельмі негатыўнае ўражанне, бо навучанне там зводзіцца, зазвычай, да нашэння формы, а нейкіх прадметаў па баявой падрыхтоўцы ім наўпрост не даюць. Паглыбленае вывучэнне фізікі і матэматыкі?.. Дык гэта фізіка-матэматычны клас, а не кадэцкі, навошта вы форму апранаеце? Асаблівага разумення дысцыпліны я там таксама не бачыў.

Што да суvoраўскай вучэльні, дык гэта фактычна пазбаўленне дзіцяці дзяцінства. На маю думку, наведванне якога-небудзь вайскова-патрыятычнага клубу па дзве гадзіны на дзень двойчы на тыдзень і нейкага аднаго палявога занятку будзе дзіцяці цалкам дастаткова. Дык навошта вучэльня?

***— Дык калі паўстане выбар, аддаваць сына ў музычную школу па класе фартэпіяна ці спартовы клуб «Волат», да прыкладу, як ты зробіш?***

— На фартэпіяна, мабыць, толькі калі сам вельмі папросіцца (смяецца), а ў «Волаце» ён ужо быў. З ягонымі асабістымі задаткамі ў прынцыпе ўжо ўсё зразумела, кірунак інтарэсаў вызначаны. Сын яшчэ не займаецца, зразумела, на поўную сілу, але бачыць, як займаюся я, і прыкладае намаганні: можа на кольцах гімнастычных пагушкацца, з задавальненнем хапае 4-кілаграмовую гіру і г.д.

Як было раней, у гісторыі? Не было ж дзіцячых садкоў, куды бацькі дзіцё аддавалі і «забывалі». Дзіцёнак глядзеў, што робіць старэйшыя, і спрабаваў паўтараць. У мяне падобны выпадак: калі еду на трэніроўку, бяру сына. Калі на фехтаванне, таксама бяру — ён там можа пабегаць з мячом і пакрычаць: «Тата, давай паб'емся разам!» Мірык расце мужчынам і будучым абаронцам Радзімы, мяне гэта цешыць.

# Органы важней за жыццё?

## Гісторыя супрацьстаяння маці і транспланталагіі



Сяргей ПУЛЬША

**Некалькі месяцаў таму да нас звярнулася Ларыса Паланевіч, прадпрымальніца і наша чытачка з Дзяржынску, з просьбай расказаць пра яе гісторыю, каб «ведалі людзі».**

Я шчэ раней пра сваю бяду спадарыня Ларыса напісала і за свае грошы выдала кнігу, якая называецца «Супрацьстаянне». У ёй — трагедыя маці, якая згубіла сына. Гэта кніга — супрацьстаянне жанчыны, маці, і сістэмы аховы здароўя Беларусі. І гэта — спроба папярэджання для ўсіх, хто з гэтай сістэмай сутыкнецца.

У 2011 годзе яе сын-матацыкліст Іван Паланевіч разбіўся ў аварыі. Праз 12 гадзін у рэанімацыі дактары канстатавалі смерць мозга. Вінаватым у ДТЗ Стаўбцоўскае ДАІ прызнала нябожчыка — не сачыў за інтэнсіўнасцю руху, парушыў рэжым хуткасці... Аднак падчас знаёмства з вынікамі праверкі Ларыса Паланевіч заўважыла ў справе паведамленне аб выняцці ўнутраных органаў для трансплантацыі.

«Супастаўляю час — і халадзее ўнутры. Атрымліваецца, што органы ў цябе вынялі адразу пасля нашага сыходу з бальніцы», — напісана ў кнізе...

З гэтага пачалося супрацьстаянне Ларысы Паланевіч і сістэмы трансплантолагіі Мінздароўя Беларусі.

### Прэзумпцыя згоды: дараванне грахоў?

Пабачыўшы такое паведамленне, Ларыса кінулася да дактароў. Як, на якой падставе, чаму яе сына «разабралі» на органы, нават не паведаміўшы пра гэта яго бацькам? Спадарыня Ларыса паспрабавала азнаёміцца з медычнай карткай сына. У бальніцы картку ёй паказаць адмовіліся. Тады яна папрасіла дакумент, згодна з якім аперацыя па выняцці органаў праводзіцца без згоды родзічаў. Такую інструкцыю таксама не знайшлі, але знайшлі медкартку сына. І толькі тады, у прысутнасці Ларысы, у дакуменце пачалі запаўняць графу «родзічы». Ларыса прасіла паказаць пратакол смерці сына — дакладней, пратакол смерці мозга. Зноў — адмова. А на пытанне, хто прымае асноўнае рашэнне пра забор органаў, ёй паведамілі, што задача медыкаў бальніцы — патэлефанаваць на кругласуткавы нумар, што ў іх ёсць патэнцыйны донар. І ўсе далейшыя пытанні вырашаюць трансплантолагі.

І Ларыса Паланевіч пачала разбірацца. З 2007 года ў нашай краіне дзейнічае «прэзумпцыя згоды»: быў прыняты закон, паводле якога, калі асоба пры жыцці не паведаміла, што ні пры ніякіх абставінах не жадае быць донарам, то лічыцца, што яна такую згоду дала. Шмат хто выказаў занепакоенасць на падставе магчымага злоўжывання з боку медыкаў.

Іх праз СМІ супакойвалі: злоўжыванні немагчымыя. У абавязковым парадку робіцца электраэнцэфалаграма, і калі на ёй ёсць прамая лінія, то няма сумневаў — мозг памёр. Да таго ж, пасля першага кансіліуму адбываецца другі, і толькі тады, калі абодва зробяць выснову пра смерць мозга, пра наяўнасць патэнцыйнага донара ставіцца ў вядомасць рэанімацыйная брыгада. І нават нягледзячы на «прэзумпцыю згоды», калі родзічы патэнцыйнага донара прысутнічаюць у рэанімацыі, у іх у абавязковым парадку пытаюцца, ці даюць яны сваю згоду на донарства.





**Я проста хачу, каб ніколі ні з кім гэта не паўтарылася. Усё лёгка робіцца. Была б зроблена энцэфалаграма — не было б прэтэнзій. «Вось, глядзіце, матуля, мы зрабілі энцэфалаграму, сігналаў няма, мозг памёр. Не зносіць жа яму органы на той свет, хай яны паслужаць іншым людзям»**

Пра гэта ўсё было шырока напісана ў газетах, калі тая «прэзумпцыя згоды» ўводзілася ў дзеянне. Ларыса Паланевіч звярнулася па тлумачэнне да галоўнага пазаштатнага трансплантолага Мінздароўя. Адказ ёй прыйшоў просты, паводле якога, галоўнае — «прэзумпцыя згоды», а энцэфалаграма, то бок дакументальнае пацвярджэнне смерці мозга, неабавязковая і носіць рэкамендацыйны характар!

На самай справе, як лічыць Паланевіч, другі кансіліум адбываецца за некалькі гадзінаў да забору органаў, калі неаказанне медычнай дапамогі ўжо зрабіла сваю справу...

Такі адказ даў падставы спадарыні Ларысе патрабаваць праверкі законнасці выкарыстання яе сына ў якасці донара. Паралельна пачала праводзіцца праверка Мінздароўя, якая высвятляе, што Ларысе Паланевіч адмовілі ў азнаямленні з медычнай карткай сына і іншымі дакументамі таму, што яна... папрасіла пра гэта вусна, а не пісьмова!

Тады жанчына пісьмова звярнулася ў медыцынскую ўстанову — і ёй дазволілі азнаёміцца з медкарткай сына. Азнаямленне адбывалася ў кабінеце галоўнага ўрача пад пільнай увагай медработнікаў. Фатаграфаваць дакументы ці здымаць з іх копіі катэгарычна забаронена: можна толькі перапісваць вытрымкі з іх ад рукі.



Республики Беларусь от 20.12.2008 №228, электроэнцефалография может быть проведена для сокращения периода наблюдения за пациентом в целях констатации смерти, ее проведение носит вспомогательный характер и не является определяющим критерием для констатации смерти мозга.

### Кансіліум, які невядома ці быў

У пасведчанні аб смерці ў якасці яе прычыны напісана: «размазджэнне чэрапу». Але дыягназ яе сына — закрытая чэрапна-мазгавая траўма. Пры правядзенні аперацыі канстатуецца, што косткі чэрапа цэлыя, тое самае ў рэнтгенаграме — «косткі чэрапа без структурных і арганічных пашкоджанняў». І пасля аперацыі дыягназ: «Закрытая чарапная траўма»...

Маці з бацькам загінулага ці не кругласуткава дзяжурылі ля рэанімацыйнай палаты, дзе быў іх сын. А ў медычнай картцы запіс: «Родзічы не ўстаноўленыя». Узнікае пытанне: калі ў справе «ўсё чыста», навошта хлусіць? Каб родныя не маглі адмовіць у донарстве?

У той жа час сваю праверку закончыў Следчы камітэт. Ларыса як зацікаўленая асоба атрымала доступ да матэрыялаў праверкі.

І тут — зноў шок. Не высветлена, хто з'явіўся ініцыятарам кансіліуму па смерці мозга. Цікава, што «начны» рэаніматолаг, які назіраў за яе сынам, здаў дзяжурства, папярэдне зрабіўшы прызначэнне яму лекаў на сем дзён. Нягледзячы на гэта, паводле папераў, першы кансіліум па канстатацыі смерці мозга ў Івана Паланевіча сабраўся а 8-й гадзіне раніцы і праходзіў з 8 да 10 гадзінаў. Пры гэтым удзельнікі кансіліуму не маглі сказаць, чым была выкліканая яго неабходнасць, і нават не памятаюць, колькі ўрачоў у гэтым кансіліуме ўдзельнічалі! Па інструкцыі, яны павінны сабрацца разам і галасаваннем зацвердзіць смерць. А па дакументах высвятляецца, што ўрач-неўролаг, якая абавязкова (!) павінна была ўдзельнічаць у кансіліуме, у той жа час... праводзіла абход пацыентаў. Уласнаручна запісваючы ім у медычныя карткі рэкамендацыі. Дык ці быў той кансіліум увогуле?

Тым часам Ларысе Паланевіч адмовілі ва ўзбуджэнні справы на падставе дадзеных судова-медычнай экспертызы. Але яна дамаглася адмены гэтай адмовы. Справа была адкрытая наноў.

Паралельна высветліліся абставіны другога кансіліуму, які нібыта таксама быў праведзены. Згодна з графікам працы, у двух з трох дактароў другога кансіліуму ў той дзень былі выходныя. А трэці, рэаніматолаг, у час кансіліуму быў на аперацыі ў якасці анестэзіёлага! Атрымліваецца, другога кансіліуму таксама не было?

І самае галоўнае. «Кандыцыянаванне» патэнцыйнага донара — увод яму прэпаратаў, якія захоўваюць органы (і пры гэтым пацыенту спыняецца медычная дапамога, то бок, яго жыццё ўжо не ратуюць) пачалося ў 8 гадзін раніцы. Нават да таго моманту, як прайшоў першы (!) кансіліум, які дае згоду на прызначэнне новых лекаў.

### Пытанні без адказу

Справу Ларысы Паланевіч адкрывалі, закрывалі і адкрывалі зноў шмат разоў. Па ёй было праведзена чатыры медычныя экспертызы. Высновы гэтых экспертызаў прадказальныя:

> 2009 г. Данная Инструкция не содержит каких-либо установленных форм документов, в том числе не утверждает форму протокола установления смерти мозга. В настоящее время указанный протокол оформляется произвольно.

ніякіх парушэнняў у дзеяннях медыкаў не знойдзена.

Але з усіх гэтых хаджэнняў па пакутах Ларыса Паланевіч вынесла адно. У нашай краіне вельмі шырока прадстаўленыя магчымасці для выняцця органаў. Але вельмі вузкія магчымасці пераканацца ў тым, што чалавек, якога рыхтуюць да донарства, сапраўды ўжо не жывы.

Усе чатыры экспертызы не далі адказаў на тыя пытанні, якія хвалявалі і дасюль хвалююць Ларысу Паланевіч.

Згодна інструкцыі Мінздароўя, камісія па ўсталяванні факту смерці мозга павінна выключыць уздзеянне на арганізм донара алкаголю і наркотыкаў. Бо медыкі ж не ведаюць, у якім стане да іх паступіў чалавек: магчыма, ён патрапіў у аварыю якраз у стане наркатычнага альбо алкагольнага атручвання. І хаця інструкцыя прадугледжвае такі аналіз, у выпадку з яе сынам, на момант прыняцця рашэння пра выняцце органаў, толькі ўзялі аналіз крыві на алкаголь. Але вынікаў гэтага даследавання яшчэ не было. Да таго ж, медыкі самі ўводзілі пацыенту наркаўтрымліваючыя прэпараты.

> Ответ Некрыловой Л.Е.: вопрос мне понятен. Кем составлялся данный протокол я не помню, по почерку так же определить не могу. Возможно, протокол составлялся 29.05.2011, т.е. датой, которая указана в самом протоколе. Подпись в протоколе напротив фамилии «Некрылова» принадлежит мне, заявляю об этом с уверенностью. Данный протокол я подписывала либо 28.05.2012, либо 31.05.2011, после моего возвращения с Украины. Расписалась я за участие в 1-ом консилиуме.

Выключыць прыём наркотыкаў за гэты час магла таксікалагічная экспертыза, але яна... не праводзілася! Чаму?

У складзе кансіліуму па смерці мозга абавязкова павінен быць неўролаг альбо нейрахірург. У момант кансіліуму неўролаг праводзіла ранішні агляд, пра што ўласнаручна распісалася ў картках хворых. Ці ўдзельнічала яна ў кансіліуме?

Дыягностыка смерці мозга прадугледжвае выключэнне «патэнцыйна зваротнага стану», які можа выклікаць прыкметы, падобныя да прыкметаў смерці мозга — напрыклад, кома. На момант агляду ўзровень глюкозы ў крыві пацыента быў 24,62, што адназначна трактуецца як эндакрынная кома. Дык мозг памёр ці ўсё ж магла быць эндакрынная кома?

Падчас другога кансіліуму двое дактароў, якія ў ім удзельнічалі, мелі выходныя, а адзін — знаходзіўся на аперацыі.

Ну і зноў жа кандыцыянаванне донара пачалося а 8-й раніцы. Як толькі скончыў змену той рэаніматолаг, які прапісаў пацыенту лекі на 7 дзён. І за дзве гадзіны да вынясення вердыкту пра смерць мозга.

Выходзячы з вышэйсказанага, ці можна наўпрост сцвярджаць, што чалавек, у якога ўзялі органы, сапраўды памёр?

## Толькі абарона

— Я не супраць трансплантaлогіі, — тлумачыць Ларыса Паланевіч. — Адзінае — трэба мець хоць нейкую ступень абароны. Таму што гэта таксама людзі, яны таксама хочуць жыць. У чым уся прычына? Прычына ў тым, што кожнай бальніцы даводзіцца план па донарах, і яны абавязаныя яго выконваць. Я нават не падавала ў суд на медыкаў бальніцы, якія не аказвалі дапамогу майму сыну, таму што яны пешкі ў вялікай гульні. Чаму пайшлі такія нестыкоўкі ў дакументах? Таму што задача медыкаў — па іх жа словах, — ім кажуць, вы толькі патэлефануеце, астатняе зробяць іншыя людзі. Медыкі ў бальніцы нават не ведаюць, што за прэпараты прывозяць, ім даецца толькі схема ўводу гэтых прэпаратаў. І што яны могуць зрабіць? Яны пасля званка фактычна паступаюць у поўнае распараджэнне трансплантолагаў і выконваюць іх указанні. Таму няма нармальных кансіліумаў, нічога... А самім медыкам гэта не трэба, гэта для іх толькі дадатковая нагрузка, грошай за гэта яны не атрымліваюць.

Сын Ларысы загінуў у 2011-м годзе. Чатыры гады маці збірала дакументы, капіявала матэрыялы справы, перапісвалася з урачамі.

— Самае страшнае, што ніхто з тых лекараў, з якімі я размаўляла, мне ніводнага разу не сказаў: «Вы не маеце рацыі, вы не так разумееце»... Усе ўсё разумеюць. Можа быць, ён, мой сын, і быў ужо нежывы. Але калі чалавеку ў такіх складаных абставінах не аказваецца медычная дапамога, і галоўным робіцца здароўе органаў донара... Яго ж не лячылі, а 8-й раніцы яму адмовілі ў медыцынскай дапамозе — без кансіліуму, калі яшчэ не было заключэння пра смерць галаўнога мозгу, — са скрухаю кажа Ларыса Паланевіч.

> Адрес и фамилия ближайших родственников: неизвестно

## Выпадак ці палітыка дзяржавы?

Колькасць дарожна-транспартных здарэнняў у нашай краіне скарачаецца, асабліва са смяротным зыходам. Тым не менш, у 2014 годзе Беларусь уваходзіла ў дзясятку еўрапейскіх краінаў па гібелі людзей у ДТЗ. У мінулым годзе ў ДТЗ у краіне загінуў 581 чалавек. Гэта — без уліку «няшчасных выпадкаў на вытворчасці».

На жаль, няма статыстыкі, колькі з гэтых загінулых міжволі сталі донарамі. І па колькіх з іх маглі ўзнікнуць тыя ж пытанні, як і пытанні Ларысы Паланевіч.

Самой спадарыні Ларысе вядома толькі адно: беларуская трансплантaлогія жыве і квітнее. Яна нават здолела зрабіць немагчымае — даведацца, каму перасадзілі пячонку яе сына. Гэта — грамадзянка Украіны, якая зрабіла ў нас аперацыю на платнай аснове. 23 мая яна стала ў чаргу па органы, а 30 мая гэты орган ёй ужо знайшлі...

«Натуральна, гэта накіраваная палітыка дзяржавы. Тут замяшаныя грошы, і немалыя. Ніхто і ў страшным сне не мог прыдумаць, што мы будзем прадметам гандлю органамі. У прэсе нам адказныя чыноўнікі кажуць, што ніколі такога не будзе. На справе ўсё інакш», — лічыць Ларыса Паланевіч.

Пазаштатны трансплантолаг Міністэрства аховы здароўя Анатоль Ус у адным інтэрв'ю запэўніваў: «За грошы трансплантацыя органаў праводзіцца не будзе ніколі. Гэта нецывілізаваны метад вырашэння праблемы»...

## Каб не паўтарылася...

«Новы Час» спрабаваў узяць каментар з гэтай нагоды ў Міністэрстве аховы здароўя. Больш за месяц таму мы адправілі ў гэтую ўстанову запыт у электронным выглядзе з чарнавіком артыкула праз форму для электронных зваротаў на іх сайце. Аднак ніякай рэакцыі на яго ці хаця б пацвярджэння, што Мінздароўя атрымала наш ліст (альбо не атрымала яго), нам даслана не было. Не атрымалася таксама і датэлефанавацца ў прэс-службу Мінздароўя.

Варта дадаць, што Ларыса Паланевіч сама неаднаразова звярталася ў тое ж Мінздароўя, каб атрымаць адказы на свае пытанні. Пісала ў міністэрства і дамагалася адказу на свае пытанне столькі, што ёй прыйшоў ліст: «Вашы звароты разглядацца не будуць, перапіска з вамі спыненая». Яна спрабавала патрапіць на прыём да міністра аховы здароўя — ёй адмовілі на падставе таго, што яна ў «чорных спісах» па скаргах. Спадарыні Ларысе давялося звяртацца ў суд, каб абскардзіць адмову ў прыёме. Яна гэты суд выйграла і на прыём да міністра патрапіла.

Але нават на гэтым прыёме яе папрасілі пакінуць пісьмовую скаргу. І на тую скаргу ёй прыйшла чарговая адпіска. Праўда, за подпісам міністра...

Два гады спадарыня Ларыса праз свой боль пісала кнігу пад назвай «Супрацьстаянне». У ёй — не толькі аўтарскі тэкст, але і набор дакументаў, якія дэ-факта пацвярджаюць: чалавека пазбавілі жыцця, хаця яго, магчыма, яшчэ можна было ўратаваць.

Кнігу Ларыса выдала ў Смаленску за свой кошт: беларускія тыпаграфіі яе друкаваць адмаўляліся. І зараз раздае яе ўсім, хто цікавіцца ці павінен цікавіцца гэтай праблемай.

«Я проста хачу, каб ніколі ні з кім гэта не паўтарылася. Я хачу, каб іх даглядалі, іх лячылі. Каб, калі ёсць падставы падазраваць смерць галаўнога мозгу — гэта было ясна, зразумела. Хай кожны прымерыць сітуацыю на сябе... Пры сучасным узроўні развіцця медыцыны ўсё гэта лёгка робіцца, зараз шмат апаратуры, практычна можна зафіксаваць, што мозг памёр... Была б зроблена энцэфалаграма — не было б прэтэнзій. «Вось, глядзіце, матуля, мы зрабілі энцэфалаграму, сігналаў няма, мозг памёр. Не зносіць жа яму гэтыя органы на той свет, хай яны паслужаць іншым людзям». Але, калі няма ніводнага выразнага доказу смерці мозгу, калі ўсё схавана, завуалявана, ідзе фальсіфікацыя, — пра што можна казаць?» — зазначае Ларыса Паланевіч.

***P.S.:** Мы, як і Ларыса Паланевіч, таксама не супраць трансплантолагіі, якая ратуе жыцці тысячам людзей. Але таксама хацелася б мець упэўненасць у тым, што невыразныя фармулёўкі інструкцыі ці яшчэ якія чыннікі не ёсць падставай для злоўжыванняў у гэтай сферы. Хацелася б быць упэўненымі, што ні цябе, ні тваіх блізкіх не «разбяруць на органы», замест таго, каб выратаваць.*

*Магчыма, пасля публікацыі гэтага артыкула мы атрымаем каментар Міністэрства аховы здароўя.*



## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. «Крым» і фрэйдызм

Незвычайныя трактоўкі атрымаў фільм «Крым» — новы прадукт расійскага агітпропа, які паказвае крамлёўскую версію падзей 2014 года ў Крыме. Шматлікія крытыкі адзначылі, што галоўныя персанажы фільма — кіяўлянка Алена і рускамоўны крымчанін Саня — метафары Украіны і Расіі. Таму ў адносінах герояў фільму пралічваецца тое, як глядзяць на ўзаемаадносіны абодвух краінаў у Крамлі, дзе замовілі фільм. Пабудаваныя гэтыя адносіны па наступнай формуле: Алена як бы і ўпіраецца, і робіць выгляд, што не хоча, і нешта лапоча пра свабоду, але на самай справе кахае Саню. У сваю чаргу, Саню варта злёгку, зусім ледзь-ледзь, націснуць, прымяніць сілу, каб паставіць Алену на месца. Напрыканцы — непазбежная пасцельная сцэна, то бок яднанне Расіі і Украіны. Вось такі фрэйдызм. Застаецца сказаць, што многія прарасійскія актывісты ўбачылі ў карціне… украінскі заказ. Справа ў тым, што ў фільме шмат танкаў, тысячы вайскоўцаў, якія прыбываюць у Крым, што адпавядае кіеўскай версіі «крымскай рускай вясны».

**Паводле расійскай прэсы**

### ТУРКМЕНІСТАН. Бердымухамедаў верыць у сямёрку?

У туркменаў вялікае свята. 27 верасня ў Ашхабадзе ўрачыста завяршыліся V Азіяцкія гульні ў закрытых памяшканнях і па баявых мастацтвах. Гульні вельмі дорага каштавалі краіне. Дастаткова ўзгадаць, што ўладальнікі шматлікіх прыватных дамоў, што былі разбураныя падчас будаўніцтва спартовых аб'ектаў, так і не атрымалі кампенсацыю. Акрамя ўсяго, нечакана выявілася любоў кіраўніка краіны да лічбы сем. Казаць пра гэта пачалі пасля таго, як стаў вядомы час пачатку цырымоніі закрыцця — 7 гадзін 17 хвілін вечара па мясцовым часе. Экс-чыноўнікі, якія працавалі з Бердымухамедавым, пацвердзілі яго асаблівае стаўленне да сямёркі. Лічыцца, што тая маніякальная любоў паўстала прыкладна ў 2010-м. З таго часу там, дзе Бердымухамедаў, там і сямёрка. Нават яго гоначны аўтамабіль мае лічбу сем. А ў 2017 годзе туркменскі лідар быў пераабраны на чарговы тэрмін, але ўжо на сем гадоў. Застаецца працытаваць псіхолага, які адзначае, што такія забабоны сведчаць пра інфантыльны характар правадыра туркменаў. Іншыя лічаць, што прыхільнасць да лічбаў звязаная са спробай аддаць усё «ва ўладу ўдачы».

**Паводле туркменскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Спартовыя ахвяры дэкамунізацыі

У Польшчы 1 кастрычніка набыў моц прыняты па ініцыятыве правай партыі «Права і Справядлівасць» закон, згодна з якім грамадзяне, якія працавалі на спецслужбы Польскай Народнай Рэспублікі ці служылі ў міліцыі, не змогуць атрымліваць надбавак да пенсіі. Закон павінен быць пакараннем для асобаў, якія ў свой час падтрымлівалі аўтарытарны рэжым. Аднак нечакана сярод ахвяраў дэкамунізацыі апынуліся вядомыя спартоўцы, якія выступалі за Польшчу ў 70–80-я гады мінулага стагоддзя. Сярод іх нават алімпійскія прызёры, якія выступалі за «міліцэйскія» клубы. У СССР «міліцэйскім» лічылася «Дынама». У Польшчы адзінай спартовай структуры не было, аднак «міліцэйскімі» называліся такія клубы, як «Вісла» (Кракаў), «Гвардыя» (Варшава) і «Палонія» (Быдгашч). Самае цікавае, што большасць спартоўцаў, якім зараз зрэжуць пенсіі, не правялі і пяці хвілін на працы ў міліцыі. Нягледзячы на апісаны парадокс і незадаволенасць фанатаў спорту, пакуль улада не збіраецца нічога мяняць у законе.

**Паводле польскай прэсы**

### ЗША. Феміністкі супраць «Playboy»

Феміністкі ўсяго свету ў шоку ад панегірыкаў, якія атрымаў Х'ю Хефнер, заснавальнік часопіса «Playboy», які памёр ва ўзросце 91 года. Сярод іншага шмат хто адзначыў пазітыўны ўнёсак нябожчыка ў культурную рэвалюцыю на Захадзе ў 60–70-я гады мінулага стагоддзя. Менавіта на старонках часопіса публікаваліся першыя артыкулы ў абарону сексуальных меншасцяў і правоў жанчын на аборты. Акрамя таго, рэдакцыя брала інтэрв'ю у лідараў афраамерыканскага руху за грамадзянскія свабоды накшталт Марціна Лютэра Кінга або Малкальма Ікса. Аднак ёсць і другі бок «Playboy». Якім бы значным не быў унёсак Хефнера ў прагрэс, гэта не кампенсуе выразнай арыентацыі «Playboy» на «задавальненне выключна мужчынскіх жаданняў у спалучэнні са здольнасцю жанчыны выконваць гэтыя жаданні». Прасцей кажучы, Хефнер прапанаваў разглядаць жанчыну як аб'ект задавальнення. Папулярнасць «Playboy» замацавала гэтае патрыярхальнае правіла ў заходнім соцыуме. «Мы дасюль не ведаем, як загасіць полымя, якое запаліў Х'ю Хефнер», — скардзіцца адна з актывістак амерыканскага феміністычнага руху.

**Паводле амерыканскай прэсы**




Фота www.trbimg.com

# Каталонія пайшла. Баскам падрыхтавацца

*Алег НОВІКАЎ*

**Напэўна, найбольш уважліва за рэферэндумам у Каталоніі назіралі ў Краіне Баскаў. Калі ў каталонцаў атрымаецца, кіраўніцтву Баскскай аўтаноміі давядзецца таксама казаць пра поўны суверэнітэт.**

Слова "давядзецца" ўжытае невыпадкова. Кіруючая ў аўтаноміі Баскская нацыяналістычная партыя (PNV), на думку незалежнікаў, толькі на паперы змагаецца за суверэнітэт. Партыя, якую паводле электаральнага базісу можна параўнаць з нямецкімі хрысціянскімі дэмакратамі або брытанскімі кансерватарамі, вядзе свой генезіс ад радыкальнай ініцыятывы Сабіна Арана Гойры — бацькі баскскага нацыяналізму. Ён нават заклікаў баскаў не браць шлюб з прадстаўнікамі іншых народаў, каб захаваць чысціню баскскай расы.

У выніку правадырам PNV увесь час даводзіцца знаходзіцца ў шпагаце — на публіцы прысягаць у адданасці запаветам Арана, а на справе быць яго антаганістамі. Дастаткова ўзгадаць, што ў 1978 годзе партыя без асаблівых пратэстаў падпісала так званы «пакт Манклоа» — агульную міжпартыйную платформу, на якой будавалася Іспанія пасля смерці Франка і якая адмаўляла баскам у праве на незалежнасць.

Варта дадаць, што апартунізм PNV мае прагматычную базу. Краіна Баскаў, дзе вырабляюць 5 працэнтаў іспанскага ВУП, не такая заможная, як Каталонія (гэты край дае 20 працэнтаў ВУП Іспаніі). Перспектывы незалежнай Краіны Баскаў дасюль выклікаюць шмат пытанняў.

Так ці інакш, па той жа схеме фармавалася стаўленне партыі да нядаўняга рэферэндуму ў Каталоніі. Калі каталонцы толькі абвясцілі плебісцыт, Іньіга Уркулью, кіраўнік Саўміна Краіны Баскаў, вітаў гэты крок. 30 верасня партыя выступіла суарганізатарам 30-тысячнай маніфестацыі ў падтрымку каталонскай незалежнасці, што прайшла ў Більбаа.

Аднак, як толькі ў Барселоне пачалі казаць пра абвяшчэнне незалежнасці, пачаліся іншыя фінты. Андоні Артузар, старшыня PNV, заклікаў Барселону і цэнтр шукаць кампраміс. На яго думку, крызіс можна вырашыць за кошт новага «пакта Манклоа», што стане пралогам канстытуцыйнай рэформы.

Новая рэформа павінна надаць каталонцам і баскам статусы нацый, якія складаюць двухбаковыя дамовы з Мадрыдам. Дапускаюць нават, што Краіна Баскаў будзе называцца Рэспублікай Баскаў, то бок юрыдычна не будзе падпарадкоўвацца Іспанскай Кароне. Праўда, праект Артузара ўжо раскрытыкавала частка іспанскага палітыкуму. Яны лічаць, што такая мадэль толькі адтэрмінуе выхад Каталоніі са складу Іспаніі.

Асцярожная лінія кіраўніцтва баскаў, натуральна, не падабаецца abertzale — больш радыкальнаму лагеру левых нацыяналістаў. Яшчэ напярэдадні плебісцыту адзін з яго лідараў заклікаў да правядзення падобнага мерапрыемства ў Краіне Баскаў. Прадстаўнікі EH Bildu — вядучай партыі гэтага напрамку — масава ўдзельнічалі ў каталонскім рэферэндуме ў якасці назіральнікаў. Аднак нейкіх інструментаў, каб прызначыць рэферэндум пра незалежнасць, у abertzale няма. Большасць у баскскім парламенце займае фракцыя PNV, якая ўтрымліваецца ад радыкальных крокаў.

Нарэшце, у рэгіёне ёсць яшчэ і несістэмная апазіцыя. Адрэагавала на рэферэндум у Каталоніі і падпольная тэрарыстычная групоўка ЕТА. У сваёй заяве ЕТА заклікае баскаў «выкарыстаць каталонскі крызіс, каб канчаткова парваць з Іспаніяй». Праўда, канкрэтных наступстваў ад такіх заклікаў чакаць не варта. У тым ліку таму, што сама ЕТА яшчэ ў 2013 годзе адмовілася ад баявых акцый, а яе сябры, калі верыць прэсе, нават абмяркоўваюць ідэю самароспуску арганізацыі.

Такім чынам, рэферэндум аб незалежнасці ў баскскай палітычнай павестцы пакуль не стаіць. Хіба што можна дапусціць новыя кансультацыі з цэнтрам наконт пашырэння кампетэнцый аўтаноміі. Аднак ад дакладных прагнозаў лепей устрымацца да развязкі каталонскага крызісу.

Акрамя таго, кожны дзень у іспанскай палітыцы паўстаюць новыя фактары. Апошнія падзеі выклікалі сапраўдны бум іспанскага нацыяналізму. Сацыёлагі зафіксавалі фенаменальны рост папулярнасці партыі Vox, якая выступае за «адзіную і непадзельную Іспанію». За апошнія тыдні яе рэйтынг вырас з двух да 20 працэнтаў (!). Лідары Vox выступаюць за паліцэйскі варыянт вырашэння праблемы Каталоніі — арышт арганізатараў плебісцыту, увядзенне прамога кіравання з цэнтру. Агрэсіўная рыторыка ў Мадрыдзе можа ўзмацніць незалежніцкія настроі сярод баскаў і, у тым ліку, у кіраўніцтве PNV.

У любым выпадку, рэферэндум у Каталоніі зрабіў значны ўплыў на баскскі палітычны працэс. Прыклад Каталоніі моцна падарваў аўтарытэт экстрэмісцкай фракцыі руху за незалежнасць. Як піша вядучае баскскае нацыяналістычнае выданне «Gara», не баявыя вылазкі, а «выключна негвалтоўны супраціў здольны разбурыць іспанскую турму народаў». «Калі людзі страцілі страх, рух пачынае ісці поўнай хадою, і ніхто не можа яго спыніць», — адзначае «Gara».

# Нашто Мадура Беларусі?

Алег НОВІКАЎ

**З улікам сітуацыі, якая склалася ў Венесуэле і вакол яе, візіт Нікаласа Мадуры ў Мінск, на першы погляд, абсалютна не мае сэнсу.**



Фота www.vistanews.ru

**Рызыкамі прайграць губернатарскія выбары і трапіць пад санкцыі праблемы Мадуры не абмяжоўваюцца. Ключавое пытанне: што рабіць з эканомікай?**



Фота www.gazeta.ru

**Пратэстовец падчас акцыі супраць кіраўніка Венесуэлы Нікаласа Мадуры ў Каракасе, 24 красавіка 2017 года**

Мадура прыехаў у Беларусь у статусе адзінага ў свеце дзяржаўнага лідара, які вітаў рэферэндум у Каталоніі і нават назваў прэм'ера Іспаніі Марыяна Рахоя «дыктатарам». Цяжка сказаць, нашто Каракасу спатрэбілася незалежная Каталонія. Хутчэй, гэта добрая нагода, каб патроліць Мадрыд, які актыўна лабіруе ўвядзенне санкцый з боку ЕС адносна Венесуэлы.

Пра санкцыі супраць Мадуры пачалі шмат казаць пасля таго, як улетку той разагнаў непадкантрольны парламент, замяніўшы яго лаяльнай Канстытуцыйнай асамблеяй. Разгон дэпутатаў не абышоўся без новай серыі вулічнага супрацьстаяння і хвалі арыштаў.

Шмат прэтэнзій да кіраўніцтва Венесуэлы і ў праваабарончых структур. У Венесуэле на сённяшні дзень больш за 400 палітзняволеных. Значная частка з іх утрымліваецца ў месцы пад назвай «Магіла» — турме, што знаходзіцца пад зямлёй. Зняволеныя там пазбаўленыя магчымасці бачыць сонечнае святло і дыхаць свежым паветрам.

Выбрыкі Мадуры выклікалі незадаволенне нават з боку саюзных Каракасу левых рэжымаў Лацінскай Амерыкі. Што ўжо казаць пра Вашынгтон, дзе заўжды разглядалі феномен чавістаў як выклік. У Злучаных Штатах нават дапусцілі магчымасць вайсковай інтэрвенцыі ў Венесуэлу, аднак да адпраўкі марскіх пехацінцаў наўрад ці дойдзе. Санкцыі, якія зараз абмяркоўваюцца ў Аб'яднанні амерыканскіх дзяржаў, будуць эканамічнымі. Яны працягнуцца да таго часу, пакуль Мадура не верне ўладу парламенту. Дарэчы, агрэсіўныя пасажы Белага дому, наадварот, трошкі ўзнялі рэйтынг Мадуры, які грае на антыамерыканскіх забабонах.

Так ці інакш, візіт у Беларусь наўрад ці дапаможа Мадуры палепшыць свой імідж на міжнароднай арэне. Не кажучы ўжо пра тое, што ён якімсьці чынам паўплывае на курс глабальных акцёраў, такіх, як ЗША і ЕС.

Таксама незразумелы візіт венесуэльскага гаранта ў кантэксце актуальнай унутранай палітычнай сітуацыі ў Венесуэле. Пакуль Мадура адкрывае мануманты ў Мінску, на радзіме дасягнула кульмінацыі кампанія па выбарах губернатараў 24 з 25 рэгіёнаў. Выбары, якія адбудуцца 15 кастрычніка, па сутнасці з'яўляюцца галасаваннем накшталт апошніх акцый улады — у тым ліку роспуску парламента. Акрамя таго, выбары губернатараў — гэта рэпетыцыя глабальнай падзеі, якая вызначыць лёс краіны: выбары прэзідэнта павінны адбыцца ў наступным годзе.

Гледзячы па венесуэльскіх навінах, губернатарскія выбары праходзяць у атмасферы, якую цяжка назваць нармальнай. Напрыклад, 3 кастрычніка ўрад абвінавацў апазіцыйную партыю «Народная воля» ў падрыхтоўцы дыверсій для дэстабілізацыі абстаноўкі. У прыватнасці, нібыта апаненты Мадуры хацелі пакінуць без электрычнасці адзін са сталічных муніцыпалітэтаў.

Паводле апытанняў, у апазіцыі ёсць шанцы 15 кастрычніка атрымаць большасць галасоў у рэгіёнах. За яе гатовыя галасаваць прыкладна 40 працэнтаў, у той час як за чавістаў — каля 22 працэнтаў. Цяжка сказаць, як гэты трэнд могуць змяніць братэрскія абдымкі Мадуры і Лукашэнкі.

Рызыкамі прайграць губернатарскія выбары і трапіць пад санкцыі праблемы Мадуры не абмяжоўваюцца. Ключавое пытанне: што рабіць з эканомікай? Менавіта гіперінфляцыя, дэфіцыт прадуктаў і лекаў штурхаюць людзей у шэрагі апазіцыі. Прычым варушыцца Каракасу трэба тэрмінова: уладальнікі дзяржаблігацый Венесуэлы павінны былі атрымаць чарговыя працэнты 15 верасня, але грошы ў тэрмін не паступілі. Цяпер да 15 кастрычніка ўрад Венесуэлы павінен альбо знайсці грошы, альбо абвясціць дэфолт.

І тут паездка ў Беларусь таксама нічога не вырашае. Тавараварот Беларусі і Венесуэлы істотна прасеў пасля прыходу Мадуры да ўлады. Калі ў 2010 годзе ён складаў 1,2 мільярда долараў, то да 2014-га скараціўся ў сем разоў. Знайсці статыстыку за 2016 год не атрымалася, аднак няма сумневаў, што аб'ём узаемнага гандлю дакладна не вырас.

Можна дапусціць, што ініцыятарам візіту Мадуры быў беларускі бок. У нашай прэсе пісалі пра праблемы сумеснай кампаніі «Петралера БелаВенесалана», якая займаецца распрацоўкай венесуэльскіх радовішчаў нафты і газу. Як кулуарна прызнаваліся яе супрацоўнікі, візіт венесуэльскага кіраўніка ў Беларусь можа рэанімаваць дзейнасць кампаніі.

Акрамя таго, на памяці кожнага, хто цікавіцца ўзаемаадносінамі дзвюх краін, яшчэ застаўся эпізод з танкерам нафты, які Лукашэнка прыгнаў з Венесуэлы, каб давесці Маскве, што існуе альтэрнатыва расійскаму «чорнаму золату». Праўда, сёння падобныя атракцыёны танней і хутчэй рабіць з дапамогай Ірана, дый, кажуць, што за той танкер беларускі бок не разлічыўся...

Нарэшце, у Мінска таксама ёсць іміджавыя праблемы. Нельга ж лідару беларускай дзяржавы ўвесь час сустракацца з расійскімі губернатарамі і экс-зоркамі Галівуду. А тут якраз Мадура сабраўся ў Маскву, адкуль да Мінску — гадзіна лёту.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Анатоль МацІос



Ваенны пракурор Украіны нечакана апынуўся своеасаблівай ахвярай трагедыі ў Лас-Вегасе, дзе пенсіянер-вар'ят забіў больш за 50 чалавек. Літаральна напярэдадні падзей у ЗША Анатоль Маціос прапанаваў дазволіць усім украінскім грамадзянам насіць зброю для самаабароны.

Асаблівага інтарэсу гэтая прапанова не выклікала, паколькі многія лічаць, што няма іншага спосабу ўрэгуляваць сітуацыю ў гэтай галіне. Паводле некаторых ацэнак, колькасць нікім не ўлічаных ствалоў на руках у насельніцтва ўжо складае да дзевяці мільёнаў адзінак. Аднак стаўленне ўкраінцаў да легалізацыі зброі рэзка пагоршылася на фоне навінаў з-за акіяну. Прычым усе каментатары, зразумела, негатыўна ўзгадваюць ініцыятыву Мацыоса.

Да гэтага часу лічылася, што МацІос вось-вось узначаліць адну са створаных антыкарупцыйных службаў, якая будзе цалкам аўтаномнай ад украінскай улады. Іншыя прарочылі Мацыосу бліскучую палітычную будучыню — аж да пасады прэм'ера. Цяпер як мінімум часова пра свае амбіцыі Мацыосу давядзецца забыцца.

А вось пра легалізацыю зброі ва Украіне будуць казаць вельмі шмат. Гэтай восенню дэпутаты ўнясуць на разгляд Вярхоўнай Рады законапраект аб прадастаўленні асобным катэгорыям грамадзян права на валоданне кароткаствольнай баявой агнястрэльнай зброяй.

### Мар'юш Блашчак



Кіраўнік МУС Польшчы назваў рэферэндум у Каталоніі «чорнай меткай» для Польшчы, якой пагражае сілезскі сепаратызм.

Сапраўды, на паўднёвым захадзе Польшчы доўгі час дзейнічае «Рух за аўтаномію Сілезіі» (RAŚ), які ўжо прадстаўлены ў шматлікіх органах улады, і нават кантралюе адміністрацыю аднаго з ваяводстваў. Тым не менш, пра выхад са складу краіны сілезцы ніколі не казалі. Максімум іх патрабаванняў — аднавіць сілезскую аўтаномію, якая існавала ў Польшчы да Другой сусветнай вайны.

Тым не менш, у чымсьці чыноўнік мае рацыю. У кантэксце супрацьстаяння Берліна і Варшавы сілезцы, на культуру якіх моцна паўплывалі немцы, могуць стаць важным палітычным гульцом. Некаторыя палітыкі ў ЕС (праўда, не вышэйшага эшалону) абяцалі прызнаць аўтаномію польскай Сілезіі ў выпадку выхаду Польшчы з ЕС.

Пасля слоў Блашчака нельга выключаць запуску ў Варшаве прапагандысцкай кампаніі супраць RAŚ. Застаецца ўзгадаць, што, паводле перапісу 2011 года, 817 тысяч грамадзян Польшчы прызналі сябе сілезцамі.

### Юліян Улад



Апошні кіраўнік «Securitate» — сумнавядомай спецслужбы ў часы сацыялістычнай Румыніі, якой ён фактычна кіраваў 10 гадоў, памёр 30 верасня ў Бухарэсце. Юліяну Уладу было 86 гадоў.

Служба «Securitate» мае вельмі негатыўны імідж сярод румынаў за сваю рэпрэсіўную дзейнасць. У гэтым плане, на першы погляд, абсалютна не зразумелая рэакцыя часткі румынскай эліты. Большасць правай прэсы лічыць, што Улад пры жыцці быў сапраўдным патрыётам Румыніі. Той факт, што нябожчык і падкантрольнае яму ведамства спрабавалі задушыць народнае паўстанне ўвосень 1989-га, разглядаецца як... акт выратавання краіны.

Маўляў, сваімі рашучымі дзеяннямі супрацоўнікі «Securitate» стварылі ў Маскве ілюзію, што сітуацыя пад кантролем. Як следства, СССР і Венгрыя адмовіліся ад інтэрвенцыі накшталт той, што мела месца ў Чэхаславаківі ў 1968-м. Больш таго, гучаць нават заклікі апраўдаць Улада, якога ў 1990 годзе пасадзілі ў турму на 25 гадоў за злачынствы супраць народу (праз чатыры гады вязень быў амніставаны).

Такая трактоўка асобы і спадчыны Юліяна Улада тлумачыцца тым, што ў часы Чаўшэску ён быў вядомы як жорсткі праціўнік правоў венгерскай меншасці. Сёння праблема правоў венгерскай камуны ў Румыніі зноў вельмі актуальная, што і выклікае інтарэс да Юліяна Улада.

Цікава, але на адносіны да экс-дырэктара «Securitate» не паўплывала, што ўвесну ўзніклі падазрэнні, быццам Улад нейкім чынам быў датычны да забойства свайго бацькі.

# ЧАЛАВЕК:
# Скрыня Пандоры і пабочныя эфекты эвалюцыі

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Алесь КІРКЕВІЧ

**Мінулым разам мы размаўлялі пра тое, як чалавек, што выбраўся на вяршыню харчовага ланцуга, змяняе навакольны свет. Пры гэтым мяняецца і сам чалавек. Тыя змены, якія мы здзейснілі ў прыродзе ды ладзе свайго жыцця пасля неалітычнай рэвалюцыі, акурат і адчынілі скрыню Пандоры…**



Гісторыя Пандоры, паводле грэчаскай міфалогіі, — гэта непасрэдны працяг гісторыі з Праметэем. Пасля таго, як Праметэй даў людзям агонь і веды (а паводле некаторых трактовак, наогул стварыў чалавека), раз'юшаны Зеўс… не, не знішчыў чалавечы род, але падаслаў да брата героя прыўкрасную Пандору са скрыняй. Той упадабаў красуню, скрыня пайшла ў пасаг, але калі цікаўнае дзяўчо яе адчыніла, адтуль вылецелі хваробы і беды, якіх дагэтуль на зямлі не было.

Усё гэта перагукаецца з біблейнай гісторыяй пра сад Эдэм, адкуль Бог выгнаў Адама і Еву пасля грэхападзення. Дастаткова толькі замяніць Еву на Пандору, яблык — на скрыню, а змея — на… Праметэя. Першы, як кажа хрысціянская традыцыя, па Божай волі быў прырэчаны поўзаць па зямлі з перспектывай трапіць у Апраметную, другі — прыкуты да скалы, дзе арол выклёўваў яму печань. Чалавек пасля ўсіх гэтых цікавых падзеяў застаўся жыць, адно, што жыццё ягонае ўжо ніколі не будзе ранейшым.

### Прагрэс ідзе, а мазгоў — менее?

Нельга казаць, што чалавек, які стаў самім сабой ад 200 да 100 тысяч гадоў таму, увесь гэты час застаецца нязменным і маналітным. Так, паводле навукоўцаў, усе чалавечыя адзінкі, што жылі на Зямлі за гэты час — Homo Sapiens (з пэўнымі лацінскімі «дадаткамі»), але яны прайшлі праз шэраг зменаў.

Калі казаць пра фізіялогію, дык ці не самая яскравая змена адбылася з нашым мозгам: ён зменшыўся. Гэта дзіўна, але калі сёння сярэдні мозг — гэта 1400 см3 «шэрага рэчыва», то 100 тысяч гадоў таму ён складаў 1500 см3. То бок, відавочна, што, нягледзячы на адукацыю, веды, інтэлектуальныя аперацыі ды доўгія штодзённыя допісы ў фэйсбуку, мазгоў у нас з вамі, прабачце, менее.

Чаму? Калі старажытны чалавек у сярэднім жыў некалькі дзесяцігоддзяў, то за гэты кароткі час ён меўся засвоіць мноства функцыяў (як кагнітыўных, так і выключна механічных), безліч інфармацыі. Ці не самы банальны прыклад: выраб крамянёвых наканечнікаў ды мікралітаў. Уласнаручная апрацоўка каменю для сучаснага чалавека — фантастычна складаная задача, здольных на такое людзей надзвычай мала. Гэтая праца непасрэдна звязаная з маторыкай далоні, якая, у сваю чаргу, развівае мозг.

Можна сцвярджаць, што агульны аб'ём ведаў старажытнага чалавека быў значна большым, чым у нашага сярэднестатыстычнага сучасніка. Гэта і паводзіны жывёлаў, і прыкметы надвор'я, і веды па медыцыне… То бок, за свой кароткі жыццёвы шлях наш продак меўся ўсё гэта засвоіць, практыкаваць, а пасля паспець перадаць нашчадкам.

### Акулярык, які не баіцца ваўкоў

Вучоныя фантазуюць, як зменіцца чалавек, калі будзе падтрымліваць свой сённяшні лад жыцця, адносна бяспечны ды камфортны. Ёсць версія, што ў нас фактычна адамрэ харчовая сістэма, бо тая ежа, якую мы сёння ўжываем, у паняцці нашых далёкіх продкаў, з'яўляецца паўперапрацаванай ежай. Ад апрацоўкі мяса на агні да сённяшніх паўфабрыкатаў і араматызатараў мы прызвычаіліся да ежы, якую страўніку ўжо фактычна не трэба перапрацоўваць.

Не выключана, што праз некалькі пакаленняў большасць людзей будзе пакутаваць на блізарукасць. Усё больш часу мы праводзім за кампутарам і гаджэтамі, нам не патрэбен востры зрок, каб упаляваць дзічыну альбо здалёк заўважыць небяспеку. І ўсё гэта будзе абавязкова замацавана натуральным адборам, бо блізарукага хлопца не з'ядае воўк, яго не цураюцца дзяўчаты, ён набывае сабе прыгожыя акуляры — ды пакідае нашчадкаў.

Ёсць яшчэ мноства змрочных фантазіяў адносна таго, што чалавек нават знешне ператворыцца ў кволую істоту з вялікай галавой ды амаль атрафаванымі цягліцамі… Пакінем іх убаку. Што ж адбываецца з чалавекам у рэальнасці?

### Ад чаго нам паміраць, як не ад раку ды цукровіцы?

Мы ўжо казалі пра тое, што на зямлі за ўвесь час жылі прыкладна 100 мільярдаў чалавек. Лічыцца, што прыкладна 40% з іх памерлі яшчэ да году жыцця — немаўлятамі. То бок, праз усю гісторыю першай прычынай смяротнасці роду чалавечага была менавіта дзіцячая смяротнасць. Другая прычына — гэта траўмы, атрыманыя ў дарослым узросце.

На сённяшні момант людзі жывуць у два разы даўжэй, чым нават 300 гадоў таму, а галоўныя прычыны смяротнасці: сардэчна-сасудзістыя хваробы, цукровіца, рак — то бок, унутраныя фактары арганізму. Не да смерці, але да згубы працаздольнасці сёння вядзе яшчэ і фантастычная колькасць псіхічных захворванняў. Чаму?

Усё гэта гучыць страшна, але, з іншага боку, цалкам лагічна: ад чаго ж людзям паміраць,

**Наўпроставым плёнам поспехаў медыцыны ды росту ўзроўню жыцця ёсць праблема старэння чалавецтва. Шалёны рост насельніцтва ў свеце, нават у Кітаі, ужо збаўляе тэмпы. Таму праз 50–70 гадоў людзей старэйшага веку будзе значна больш, чым моладзі**

як не ад унутраных хваробаў, калі іншых прычынаў смерці, акрамя войнаў і ДТЗ, фактычна не засталося? І тут пачынаецца самае цікавае. Механізмы большасці ўнутраных хваробаў запушчаныя акурат падзеямі, што адбыліся за апошнія 10 тысяч гадоў, пасля неалітычнай рэвалюцыі, калі чалавек ад палявання ды збіральніцтва пачаў пераход да сельскай гаспадаркі.

### Цукровіца і амерыканскі шакалад у Акіяніі

Адна з самых небяспечных сёння хваробаў, якую ведае кожны, гэта цукровіца (цукровы дыябет). Найхутчэй, у нашых далёкіх продкаў цукровіца была рэдкай генетычнай мутацыяй, якая хутка прыводзіла да смерці. А вось яе росквіт і перасяленне ў нашу штодзённасць — таксама дасягненне прагрэсу. Як вучоныя да гэтага дайшлі?

Некаторыя народы Акіяніі сёння маюць вельмі высокі ўзровень захворваемасці цукровіцай: да 30% ад усяго насельніцтва. Медыкі доўга не маглі зразумець, у чым прычына. Апынулася, што варта капнуць глыбей у гісторыю. Калі гэтыя народы засвойвалі Акіянію, ім даводзілася перасякаць на чоўнах велізарныя адлегласці. Гэта патрабавала надзвычай маруднага метабалізму ў арганізме, бо чалавек меў навучыцца працяглы час абыходзіцца без ежы. На мужчынаў з генамі, адказнымі за марудны метабалізм, быў «попыт», а значыць, і натуральны адбор пайшоў у такім ключы.

Паколькі яны былі вельмі фізічна актыўнымі, елі мала, салодкага амаль не ўжывалі, то і цукровіцай не хварэлі ў прынцыпе. Жыццёвыя ўмовы не стваралі да гэтага падставаў. Пасля Другой сусветнай вайны ў рэгіён прыехалі амерыканцы ды пачалі частаваць мясцовых спамам (кансерваванай вяндлінай), шакаладам ды іншымі прысмакамі, а вось фізічная актыўнасць мясцовых, асабліва пасля пераарыентацыі на турызм, рэзка знізілася. Нават на фота жыхары Самоа ці Новай Каледоніі нам зараз падаюцца паўнаватымі.

Што адбылося? Генетычна ўсе жыхары рэгіёну былі схільныя да цукровіцы, наўпрост для яе з'яўлення не было падставаў. А сама схільнасць (марудны метабалізм = накапленне цукру ў арганізме) выконвала пазітыўную функцыю, улічваючы іх лад жыцця. Калі ж умовы радыкальна змяніліся на больш камфортныя, то механізмы цукровіцы запусціліся.

Яшчэ адзін прыклад тычыцца індзейскага племені піма, палова якога жыве ў Мексіцы, палова — у ЗША. З імі адбылася вельмі падобная гісторыя, але з больш цікавай канцоўкай: тыя індзейцы, што апынуліся ў Мексіцы, пакутуюць на цукровіцу прыкладна ў 10% выпадкаў (таксама вельмі высокі ўзровень), а іхныя суродзічы ў ЗША — у 40% (самы высокі ўзровень захворвання на дыябет у свеце)... Гэта, зноў жа, да пытання аб камфорце і ладзе жыцця: жыццё ў ЗША ва ўсіх сэнсах больш «салодкае», чым у Мексіцы. Таму цукровіца — адназначны плён неалітычнай рэвалюцыі і ўсяго, што адбылося з чалавекам у далейшым.

### Малярыя і вусцішны Ангхор

Падобная гісторыя і з інфекцыйнымі хваробамі, якія немагчыма сабе ўявіць да моманту «выгнання з раю», то бок да часу, калі чалавек пачаў займацца сельскай гаспадаркай ды ствараць густанаселеныя тэрыторыі. Прычым людзі ў пэўны момант самі ж і запусцілі механізм развіцця інфекцыяў.

Як так сталася? У далёкія часы збіральнікі наўпрост сыходзілі з тых месцаў, дзе віравала нейкая інфекцыя. Калі група ці племя прыходзіла на балоты, дзе людзі забівалі ды з'ядалі вепручка, а пасля пачыналі хварэць, то найлепшым алгарытмам было наўпрост змяніць месца дыслакацыі. Раней ці пазней чалавек усё ж такі навучыўся праводзіць паралель паміж месцам, дзе ён знаходзіцца, і бядой, якая адбываецца.

Сёння ёсць так званыя непапулярныя альбо забытыя хваробы. Да іх належыць таксама і малярыя. У Заходнім свеце такой праблемы фактычна не існуе, прынамсі ў Паўночным паўшар'і, а вось на поўдні яна дагэтуль актуальная і зусім не забытая: штогод ад яе памірае людзей не менш, чым ад таго ж СНІДу (прыкладна ад 800 тысяч да 1 мільёна чалавек). Пры гэтым, акурат натуральных ачагоў той жа малярыі ў свеце некалі было не так і шмат.

Што ж зрабілі людзі? Усе ведаюць, што ў Камбоджы ёсць руіны Ангхор Ват, збудаванага ў XIII стагоддзі, сёння — турыстычнай Меккі Паўднёвай Азіі. Мала хто ведае, што гэта толькі храмавы комплекс велізарнага гораду Ангхор, які ў свой час быў ці не найбольшым мегаполісам на Зямлі. Паводле памераў ён быў прыкладна роўным сённяшняму Мінску, і жылі там каля 750 тысяч чалавек. То бок, калі мінчукоў выселіць са шматпавярховікаў і даць магчымасць займацца сельскай гаспадаркай — тое прыкладна і атрымаецца.

Увесь горад быў падзелены на комплексы, у якіх вырошчваўся рыс. Што трэба для рысу? Вада, таму людзі будавалі каналы. Калі глеба ставала менш урадлівай, яны кідалі адны пляцоўкі і пераходзілі на іншыя. Але закінутыя каналы нікуды не знікалі, а пераўтвараліся... у ідэальныя рассаднікі малярыі. У пэўны момант жыццё ў горадзе стала наўпрост немагчымым: Ангхор пераўтварыўся ў велізарнае балота і суцэльны жах, дзе эпідэміі падштурхоўвала яшчэ і неймаверная перанаселенасць.

Калі людзі сышлі, Ангхор стаў горадам-прывідам, які марнеў, разбураўся і ўрэшце зарос джунглямі. Магчыма, нешта падобнае адбылося і з закінутымі гарадамі Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі. Ангхор — ці не першы маштабны прыклад у гісторыі, калі людзі самі арганізавалі экалагічную катастрофу і самі ж за яе заплацілі. Мабыць, не варта ўдакладняць, што сярод паляўнічых і збіральнікаў такая сітуацыя была б наўпрост немагчымай.

### Афрыка: крывыя сцяжынкі натуральнага адбору

Так, чалавек спрабуе да ўсяго прыстасавацца. Ёсць, да прыкладу, хвароба — фавізм, якая характарызуюцца анеміяй, ныркавай недастатковасцю і мноствам іншых сур'ёзных праблем. Хворыя на яе, зразумела, — не лепшыя экземпляры ў плане натуральнага адбору, таму і хвароба рэдкая. Дык вось, у Афрыцы ёсць плямёны, сярод якіх падобны сіндром маюць... да 30% чалавек. Чаму?

Бо малярыйная паразіты-плазмодыі жывуць акурат на чырвоных крывяных цельцах. А вось у людзей з фавізмам плазмодыі наўпрост не могуць развівацца ў крывяных цельцах чалавека. Атрымліваецца, што перад вялікай пагрозай вымірання ад малярыі, чалавек у эвалюцыйным плане пайшоў крывой сцяжынкай у бок «меншага зла», замацаваўшы ў сваіх генах іншую хваробу. Людзі атрымаліся слабымі і нетрывалымі, але — жывымі.



Гэта лакальны гістарычны прыклад, але для ўсяго чалавецтва гэта неблагая метафара значна больш глабальнага маштабу. На сённяшні момант узровень медыцыны прывёў да высокай выжывальнасці людзей: выжываюць амаль усе. Прынамсі, людзі з досыць цяжкімі хваробамі дажываюць да ўзросту, у якім могуць мець нашчадкаў. Акурат гэта і вядзе да накаплення генетычных праблемаў, бо ў мінулыя часы падобныя адзінкі наўпрост не працягвалі свайго роду.

Услед за гэтым ідзе ўжо замуляная ў СМІ праблема старэння чалавецтва, што таксама ёсць наўпроставым плёнам поспехаў медыцыны ды росту ўзроўню жыцця. Шалёны рост насельніцтва па ўсім свеце, нават у Кітаі, ужо збаўляе тэмпы. Пра Еўропу ды Заходні свет і казаць няма чаго. Таму праз 50–70 гадоў людзей старэйшага веку, асабліва ў нашай частцы свету, будзе значна больш, чым моладзі. З аднаго боку, гэтыя людзі будучага, не стануць масава паміраць ад запалення лёгкіх, дзякуючы лекам, з іншага — будуць насіць з сабой цэлы мех генетычных праблемаў, у дадатак да блізарукасці ды празмернай вагі.

### Ад генія да шызафрэніка — пара бялкоў

Яшчэ адна важная тэма — псіхічныя захворванні. Яна нават сёння не даследаваная дасканала, вакол яе віруюць збольшага гіпотэзы ды здагадкі. Хай геном чалавека і расшыфраваны, але секвенаванне геному, ягонае тлумачэнне, можа расцягнуцца яшчэ на многія дзесяцігоддзі. Адсюль і цяжкасці з вывучэннем ды лекаваннем падобных выпадкаў.

Існуюць дзясяткі генетычных сіндромаў, якія з часам вядуць да дэменцыі: чалавек губляе розум ды з часам памірае. Яскравы прыклад — хвароба Тэя-Сакса, якая, дарэчы, параўнальна часта трапляецца сярод так званых «ашкеназійскіх яўрэяў» (каля 3% маюць адпаведную генетычную мутацыю). Імаверна, шмат пакаленняў таму адзін з продкаў «ашкеназаў» меў гэту генетычную мутацыю ды перадаў яе нашчадкам, якія рассяліліся па свеце.

Высокая частата генетычных захворванняў характэрная для народаў, плямёнаў або супольнасцяў людзей, якія пайшлі ад адносна невялікай групы Homo Sapiens. Напрыклад у франка-канадцаў або ірландцаў таксама прысутнічае даволі высокі ўзровень небяспечных генаў. З хваробай Тэя-Сакса дзіця ў паўгадовым узросце пачынае дэградаваць у развіцці, слепне і неўзабаве памірае. Часам людзі з такім сіндромам дажываюць і да дарослага веку, прыкладам, да 30 гадоў.

Вучоныя сёння збольшага ведаюць механізм падобных захворванняў: мутаваны ген тармозіць выпрацоўку пэўных рэчываў, якія дапамагаюць «чысціць» цэнтральную нервовую сістэму чалавека. У выніку нервовая сістэма хутка разбураецца. Механізм некаторых генетычных захворванняў звязаны нават не з тым, што ў аднаго ў геноме такія бялкі ёсць, а ў іншага няма, — усё складаней. У аднаго чалавека такіх бялкоў можа быць пяць, а ў хворага, у якога яны дублююцца, пятнаццаць ці дваццаць. Таму сярод навукоўцаў з'явілася думка: маўляў, а што калі ёсць такі ўмоўны бялок, прысутнасцю якога можна «вымераць чалавека», знайшоўшы залатое сячэнне? Калі 5 — звычайны, калі 10 — геній, калі 15 — шызафрэнік? Размова пра адзіны механізм, які падзяліў бы людзей на сярэднестатыстычных, таленавітых і псіхічна-хворых. Зрэшты, пакуль гэта толькі фантазія.

> Частка грамадства будзе ісці па шляху накаплення генетычных праблемаў, а іншая частка — па шляху «ачышчэння пароды»

Але нават падобныя фантазіі ставяць грамадства перад пытаннем аб генетычным падзеле людзей. Адзіная магчымасць у сённяшняй складанай сітуацыі, калі чалавецтва накоплівае генетычныя праблемы, нібы снежны ком, гэта праверка геному яшчэ ненароджанага дзіцяці.

### «There was a boy...»

Сёння грамадства ўжо відавочна да гэтага схіляецца, нягледзячы на шматлікія жорсткія заканадаўчыя і рэлігійныя забароны. Рабіць генетычныя копіі дзяцей ды ладзіць падобныя эксперыменты пакуль нельга. Зрэшты, хто сказаў, што, нягледзячы на забароны, гэтым ніхто яшчэ не займаецца? Не так даўно прайшла інфармацыя пра эмбрыён чалавека, які быў вылечаны ад цяжкага генетычнага захворвання, дзякуючы замене гена, што мутыраваў, на здаровы.

А вось гісторыя з Вялікабрытаніі, што адбылася ў 2000-х гадах. Хлопчык Чарлі Вітакер меў захворванне, праз якое ягоны косны мозг не мог выпрацоўваць дастаткова крывяных цельцаў для забеспячэння арганізму кіслародам. Каб яго вылечыць, трэба было забіць ягоны косны мозг ды імплантаваць новы. Але косны мозг — гэта частка імуннай сістэмы чалавека, і знайсці донара ў такой сітуацыі фактычна немагчыма. Бацькі ведалі, што найлепшы варыянт — нарадзіць дзіцяці брата альбо сястру, што будзе мець геном, ідэнтычны ягонаму, узяць яго косны мозг і перасадзіць хвораму.

Але, паводле законаў генетыкі, калі вы памятаеце пастара Мендэля, што займаўся эксперыментамі з гарохам, верагоднасць таго, што народзіцца «патрэбнае» дзіцё, была ўсяго 25%, гэта значыць, Вітакеры маглі нарадзіць нават яшчэ чатырох дзяцей, але донар іх старэйшаму сыну так бы і не з'явіўся. Таму бацькі хадайнічалі аб тым, каб выбраць той эмбрыён, які мае геном, адпаведны геному хлопчыка, і зрабіць ЭКА (экстракарпаральнае апладненне).

У Вялікабрытаніі ім гэта рабіць забаранілі, тады яны паляцелі ў ЗША, дзе зрабілі ЭКА, абралі патрэбныя клеткі. У выніку ў хлопчыка нарадзіўся брат з геномам, ідэнтычным ягонаму. У малодшага брата ўзялі косны мозг, увялі брацiку — і той цалкам вылечыўся. Да чаго ўся гэтая гісторыя? Кажучы простай мовай, нованароджанае дзіця — штучны блізнюк свайго старэйшага брата — стала донарам органа.

### Надзея на дне скрыні

Ужо сёння заможныя людзі ў высокаразвітых краінах, гатовыя ўкладаць у сваіх дзяцей, у іх адукацыю і будучыню, пачынаюць з таго, што займаюцца дасканальным вывучэннем дзяцей яшчэ перад іх нараджэннем на прадмет генетычных захворванняў. Паколькі навука развіваецца імкліва, мы пакрысе прыходзім да таго, што ў пэўнай прывілеяванай частцы грамадства падобная практыка можа стаць цалкам звычайнай: калі мець дзяцей — дык здаровых і якасных.

А што з астатнімі? Пытанне рытарычнае, бо падобныя працэдуры, як сёння, так і заўтра, наўрад ці будуць фінансава дасяжныя для большасці. Такім чынам, можа стацца, што частка грамадства будзе ісці па шляху накаплення генетычных праблемаў, а іншая частка — па шляху «ачышчэння пароды». Пакуль што ўсё гэта выглядае як сюжэт фантастычнай антыўтопіі, але і само пытанне аб клянаванні калісьці падавалася прыгожай казкай. Таму — нічога нельга выключаць.

...Вяртаючыся да гісторыі з Пандорай, варта ўзгадаць і заканчэнне міфа. Калі прыгажуня здолела зачыніць скрыню, а ўсе злыбеды ўжо вылецелі на волю, на дне засталася адно ...надзея. У чым яна для нас сённяшніх? Магчыма, у тэхналогіях? Зрэшты, пра тэхналагічную рэвалюцыю і яе ўплыў на нашу з вамі рэчаіснасць — у наступнай, завяршальнай частцы трылогіі.

**Працяг будзе**

# Па сцяжынках выдатных суайчыннікаў

Лявон ЦЕЛЕШ

**Чарговая вандроўка з мастаком і фатографам Уладзімірам Цвіркам завяла мяне ў багаты гістарычнымі падзеямі Баранавіцкі раён.**



Вёска Палонка. Царква Св. Параскевы Пятніцы (1880 г.)



Музей-сядзіба Адама Міцкевіча

Найперш мы наведалі вельмі цікавы куточак гэтага краю — вёску з назвай Новая Мыш. Беларускі вучоны-географ Вадзім Жучкевіч выказвае думку, што назва вёскі паходзіць ад рэчкі Мышанкі, прытока ракі Шчары. Вядомы беларускі паэт і фалькларыст XIX стагоддзя, сябра паэта Адама Міцкевіча Ян Чачот, які часта наведваў Новую Мыш, у сваёй цудоўнай баладзе «Мышанка» дае назву гэтай вёскі паводле народных паданняў.

Упершыню Новая Мыш згадваецца ў XV стагоддзі, а пад 1566 год упамінаецца ўжо як мястэчка. У XVI — XVII стагоддзях тут існаваў замак. А ў трынаццацігадовую вайну (1654–1657 гадах) замак і мястэчка былі ўшчэнт зруйнаваныя войскам Маскоўскай дзяржавы.

У 1860 годзе тут было 160 двароў, 1030 жыхароў, дзейнічала народная вучэльня, тры яўрэйскія школы, бровар, цагляны завод. У 1825 годзе быў пабудаваны касцёл Перамянення Божага, а ў 1859 годзе — Праабражэнская царква. Некалі па службовых справах мне даводзілася праязджаць праз вёску, але я тады не ведаў пра яе такое багатае мінулае. Памяць свайго выдатнага земляка Яна Чачота жыхары Новай Мышы ўшанавалі помнікам на адной з вуліц вёскі.

Вёска Палонка, якая знаходзіцца ў 12 кіламетрах на захад ад Новай Мышы, вядомая перш за ўсё бітвай, якая адбылася ў наваколлі вёскі 28 чэрвеня 1660 года паміж войскамі ВКЛ пад камандаваннем гетманаў Паўла Яна Сапегі і Стэфана Чарнецкага і войскамі Масковіі. Нягледзячы на тое, што войска ВКЛ налічвала 15 тысяч, а маскоўскае ў тры разы болей — 46 тысяч воінаў, нашы продкі атрымалі бліскучую перамогу.

Па значнасці бітву пад Палонкай можна параўноўваць з бітвай пад Оршай — з яе пачалося вызваленне Беларусі ад маскоўскіх захопнікаў.

Мясцовыя жыхары падказалі нам, дзе знаходзіцца памятны знак — мемарыяльны камень «крывавы паток», прысвечаны гэтай бітве. Ад мясцовай жыхаркі мы даведаліся, што шыльду з памятнага каменя некалькі раз знішчалі вандалы, але, як гэта часта бывае, вінаватых не знайшлі (ды іх і не шукалі). А першы ўспамін пра Палонку датуецца 1506 годам, калі ў ваколіцах вёскі войскі ВКЛ на чале з гетманамі Станіславам Кішкам і Міхалам Глінскім разбілі татар.

Наведалі мы таксама старажытную вёску, некалі мястэчка Молчадзь, у якой знаходзіцца царква Святых Пятра і Паўла (1869–1873 гады). Доўга шукалі ў наваколлі вёскі старажытны магільны склеп, але так і не знайшлі. І апытанне мясцовых жыхароў не дало вынікаў.

У вёсцы Паручын адбылося наша знаёмства са Свята-Пакроўскай царквой (1783 год), а ў вёсцы Вольна — з прыгожай царквой Святой Тройцы (першапачаткова касцёл), пабудаванай у 1768 годзе.

Нарэшце, вандроўка па цікавым Баранавіцкім краі прывяла нас да вёскі Завоссе, паблізу якой знаходзіцца музей-сядзіба Адама Міцкевіча. Пасля Першай сусветнай вайны ад сядзібы не засталося ніякіх слядоў, а яе рэканструкцыю праводзілі паводле малюнкаў Напалеона Орды і Эдуарда Паўловіча. У 1927 годзе на гэтым месцы быў устаноўлены помнік паэту, але ў 1996-м пры рэканструкцыі сядзібы ён быў знесены. З часоў жыцця Адама Міцкевіча засталася толькі старая ліпа.

За 35 кіламетраў на паўночны ўсход ад Баранавіч знаходзіцца вёска Паланечка, якая ўпершыню згадваецца ў XVI стагоддзі як мястэчка. У канцы XVIII — пачатку XIX стагоддзяў Радзівілы збудавалі тут палац, у якім была багатая калекцыя манет, архіў, вялікая бібліятэка. З Радзівілаў першым уладальнікам Паланечкі быў Мацей. У 1751 годзе ў мястэчку быў пабудаваны касцёл Святога Юрыя, у якім хрысцілі вядомага даследчыка, геолага, сябра Адама Міцкевіча, народнага героя Чылі Ігната Дамейку.

Мястэчкам валодаў таксама Канстанцін Радзівіл, якога наведваў беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля. У часы паўстання супраць царскай Расіі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў ваколіцах мястэчка дзейнічалі паўстанцкія атрады.

Пасля знаёмства з гэтай цікавай вёскай мы накіраваліся ў вёску Карчова, якая мела першапачатковую назву Туганавічы. Вёска ў 1510 годзе згадваецца як маёнтак, які належаў спачатку Туганоўскім, а з 1758 года — Верашчакам. Наведалі мы Туганавіцкі пейзажны парк, які быў створаны ў другой палове XVIII стагоддзя. Частымі гасцямі гаспадароў маёнтка былі Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Тамаш Зан, Ігнат Дамейка.

Лета 1818 года ў Туганавічах прайшло пад знакам рамантычных пачуццяў дачкі гаспадыні маёнтку Марылі Верашчакі і маладога Адама Міцкевіча. У Туганавіцкім парку была альтанка, так званая «калыска кахання» ў выглядзе высаджаных па коле шасці стогадовых ліпаў, дзе сустракаліся Адам і Марыля. Канстанцін Туганоўскі ў 1831 годзе ўзяў шлюб са старэйшай сястрой Марылі — Сафіяй Верашчакай, і род Туганоўскіх зноў стаў уладальнікам сядзібы.

Вядома, што Канстанцін Туганоўскі падтрымліваў сувязі з Кастусём Каліноўскім, у яго маёнтку была створана зброевая майстэрня, адкуль зброя пераправлялася ў паўстанцкія атрады. Пасля падаўлення паўстання Канстанцін Туганоўскі быў арыштаваны і замардаваны ў Віленскай турме.

Непадалёк ад парка, ва ўрочышчы Кут знаходзіцца валун — «Камень філарэтаў», каля якога Адам Міцкевіч і яго сябры давалі клятву ідэалам свабоды, братэрства і незалежнасці.

У гэтым годзе мы збіраемся здзейсніць яшчэ некалькі падарожжаў па багатай падзеямі і помнікамі даўніны роднай Беларусі, каб дапоўніць 150 маршрутаў, якія ўжо здзейсніў Уладзімір Цвірка.

**Фотаздымкі аўтара**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №942

Падпісана да друку 06.10.2017. 8.00.
Наклад 2000 асобнікаў. Кошт свабодны.